Трымайся праўды

# аБАЖУР

№ 5 (113) 2015

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS






# ШКОЛА МАЛАДОГА ЖУРНАЛІСТА

Новую «партыю» юных рэпарцёраў выпусцілі Школы маладога журналіста, якія працавалі пры рэдакцыях рэгіянальных СМІ.

Сёлета з набраных 25 навучэнцаў да выпускнога дабраліся 17 чалавек, якія прайшлі тэарэтычную падрыхтоўку, справіліся з летняй практыкай у рэдакцыях і замацавалі веды ў фінальным тэарэтычна-практычным курсе.

Традыцыйна навучанне завершылася конкурсам сярод маладых журналістаў на лепшы матэрыял.

Выпускнікі баранавіцкай школы, якая працавала пры рэдакцыі «Intex-press», набралі найбольш прызавых месцаў.

ШМЖ — вынік супольнай працы Асацыяцыі рэгіянальных выдаўцоў «Аб'яднаныя масмедыі» і ГА «БАЖ».
Многія з выпускнікоў пасля папаўняюць шэрагі студэнтаў журфака, шмат хто прыжываецца ў штаце «школьных» рэдакцый. Летась свежыя сілы ўліліся ў рэдакцыі «Борисовских новостей», «Ганцавіцкага часу», «Газеты Слонімскай».



а БАЖУР
ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 5 (113) 2015 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота на вокладках —***
Васіль Фядосенка (першая)
Генадзь Верацінскі (апошняя)

Выданне зарэгістравана
ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь,
рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 05.11.2015 г.
Дата выхаду 25.11.2015 г.
Фармат 60х84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 500 асобнікаў.
Заказ № 2207/3
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com



# Святлана Алексіевіч:

# «У спрэчцы цара і паэта перамога чалавека мастацтва непазбежная»



*Сяргей ШАПРАН*

Дзіўнае гэта адчуванне — быць не толькі сучаснікам-суайчыннікам Нобелеўскага лаўрэата, але і мець гонар асабіста ведаць яго, прычым ведаць ужо амаль дваццаць пяць гадоў. І сёння гэта, бадай што, вызначальныя пачуцці — радасць і гонар за Святлану Алексіевіч, творчасць якой з'яўляецца фактам не толькі беларускай, але цяпер ужо дакладна і сусветнай літаратуры. Апроч таго, Алексіевіч — даўно ўжо факт вялікага інтэлектуальнага жыцця. Пра гэта сведчаць не толькі яе кнігі, але і яе інтэрв'ю. І можна толькі здзіўляцца, наколькі сучасна гучыць тое, што было прамоўлена ёю і дзесяць, і дваццаць гадоў таму. Мусіць, гэта адна з найадметнейшых рыс пісьменніцы — не толькі быць надзённай у сваім часе, але і мець рэдкую здольнасць зазіраць за межы эпохі, знаходзіцца па-над часам. Гэта, напэўна, прыкмета не толькі вялікай літаратуры, але і вялікай філасофіі. Зрэшты, ці магчыма размежаваць у кнігах Святланы Алексіевіч дакументалізм, прыгожае пісьменства і філасофічнасць?

## «Ніякая ідэя не можа быць вышэйшай за чалавечае жыццё»

— Мяне абвінавачваюць у залішнім натуралізме. Але гэта не натуралізм — я паказваю знікненне чалавечага жыцця: як сыходзяць фарбы з твару, якога колеру былі ў гэтага чалавека вочы, кроў. Я анатамую гэта, каб чалавек жахнуўся ад самога сябе. І ніякая ідэя не можа быць вышэйшай за чалавечае жыццё.

Сапраўды, гэтак жа, як цяпер, прагнучы крыві, заклікаюць судзіць КПСС, так і хлопцы без ног, якіх мы здымалі ў ленінградскім шпіталі, адказваючы на пытанне пра нашых ваеннапалонных, патрабавалі паставіць усіх іх да сценкі. Яны не хацелі нават чуць, што, можа быць, гэта былі не ўцёкі, а выбар. Яны не дапускалі думкі, што іх суайчыннікі беглі з краіны, якая здрадзіла ім. Што гэта?.. Зло народзіць толькі зло, кроў народзіць кроў. Мы ўсе сядзім у адной турме. І калі зноў пачнем дзяліцца: «Ты — арыштант, я — наглядчык», — мы зноў абмыемся крывёю. Таму я — абсалютны пацыфіст.

*1991*

## «Інтэлектуал асуджаны на канфлікт з уладай»

— Я ніколі свядома ў апазіцыі не знаходзілася. І вам не здаецца, што гэта зняважальна, што мы так шмат гаворым пра тых, хто сёння знаходзіцца ва ўладзе?! Калі разам збіраюцца

разумныя людзі, яны тут жа абмяркоўваюць пытанне, з якой нагі ўсталі сёння Лукашэнка ці Ельцын!..

Вядома, усе мы жывем у сённяшнім часе. Але я думаю, што мы прывязаныя да часу нават залішне. Асабіста для мяне заўсёды было больш цікавае само жыццё. Мы ж усе выйшлі з ваеннага камунізму. У мяне вельмі рана з'явілася пачуццё пратэсту, бо такое стаўленне да жыцця знаходзіцца па-за нормай.

У Швецыі на адной з чытацкіх канферэнцый да мяне падышоў хлопец, які задаваў зусім іншыя пытанні. Потым высветлілася, што ён родам аднекуль з Канарскіх астравоў. Ён не памятаў вайну проста генетычна! Існуе ж цікавая гіпотэза пра тое, што калі бацька паранены, дык гэтае хваравітае адчуванне перадаецца ледзь не ў дваццатым пакаленні. І мы размаўлялі з гэтым хлопцам як зусім розныя людзі. Я зразумела, што яму вельмі цяжка чытаць мае кнігі. Вы ж, напрыклад, наадварот, добра разумееце мяне, таму што, як казаў Дастаеўскі, мы — людзі з аднаго вар'яцтва. У нас ёсць памяць нянормы. І я лічу, што інтэлектуал асуджаны на канфлікт з уладай, а ў Беларусі тым больш. Апроч таго, у нас гэта адбываецца яшчэ больш прымітыўна і трагічна, чым ва ўсім свеце, таму што насамрэч мы не жывем, а проста выжываем.

Мне даводзіцца часта размаўляць з журналістамі. Але ўсе да гэтага часу задаюць па сутнасці адно і тое ж пытанне: «Што рабіць?» Аднак зусім не абавязкова скліkаць народ да сякеры, пад сцягі або да аўтамата Калашнікава. Да таго ж я таксама не ведаю, што рабіць. Я магу падзяліцца толькі досведам сваіх расчараванняў і шуканняў, нейкіх сумневаў.

*— Ці былі ў Вашым жыцці моманты, якія прымусілі паглядзець на свет па-іншаму?*

— Смерць сястры і Чарнобыль. Да гэтага часу я была чалавекам мэты. Я не заўважала раніцу, вечар. Я не заўважала таго, што чалавек бывае ранішні і вечаровы. Я не заўважала лета і восень. Але калі памерла сястра, я раптам рэзка спынілася. Я зразумела, што ёсць тваё адзінае жыццё. І калі свет для мяне ўжо стаў адкрыты, я стала досыць іранічна ставіцца да самой сябе і да жыцця.

Некаторыя людзі, як вераб'і, вельмі смешна надзімаюцца. І Чарнобыль таксама ў гэтым сэнсе ўсё расставіў на свае месцы. З чаго чалавек узяў, што ён — вянец тварэння? У чарнобыльскай зоне ёсць адчуванне, што чалавек зусім і не патрэбны. А вось мурашы, наадварот, — як паўзлі, так да гэтага часу і паўзуць. І многія каштоўнасці, на якіх трымалася наша цывілізацыя, пасля Чарнобыля проста патухлі. Калі рванула гэтая электрастанцыя, раптам стала ясна, што наша культура — гэта куфар са старымі рукапісамі. Вы нават не ўяўляеце, наколькі мы заціснуты культурнымі канонамі! І крызіс ідэі можа быць і пры поўным супермаркеце, калі чалавек не ведае, дзеля чаго і куды ён ідзе. Цяпер стала ясна, што гэты куфар трэба грунтоўна ператрасаць, каб чалавек сапраўды выжыў.

*1997*

## «Самае цяжкае — канфлікт з масавай свядомасцю, якая сілкуецца міфамі»

— Мне цікава гаварыць з кожным чалавекам, у кожным чалавечым жыцці ёсць свой унікальны тэкст, таму што кожны нараджаецца, жыве і паміраe, гэта значыць з кожным адбываюцца незвычайныя рэчы. Іншая справа, як здолець дастаць гэты шчыры і таямнічы тэкст, які вельмі засмечаны, захілены экранам чужога жыцця, экранам масавай культуры і нават, калі хочаце, выхаваннем. Вось гэта і давалася цяжэй за ўсё. Таму што, калі, напрыклад, прыходзіш да жанчыны-франтавічкі, яна перш за ўсё прамаўляе прыблізна такія вывучаныя словы: «Савецкая жанчына разам з мужчынам знаходзілася на самых перадавых пазіцыях...» Думаеш: Божа мой, як далёка тут схаваная душа! І ўжо потым, значна пазней (і гарбаты пап'ем, і паплачам), яна раптам пачынае гаварыць абсалютна цёплыя, свае словы. Але каб дачакацца гэтага моманту... «Ты не ўяўляеш, — казала мая суразмоўніца, — якая страшная вайна, як страшна паміраць... А я такая маленькая пайшла на фронт, што за вайну нават падрасла!» І ўжо распавядала, як аднойчы, убачыўшы забітую дзяўчыну, аголеную і са знявечанымі нагамі, марыла: калі заб'юць, дык каб упасці прыгожа. І калі іншым разам убачыла ў лесе паляну пралесак, мільганула думка: «Калі заб'юць, дык каб абавязкова на такой паляне!..»

Мужчына пасля вайны вяртаўся героем, а ў жанчын узнікалі праблемы: масавая свядомасць была супраць іх. І яны хавалі свае інвалідныя і воінскія дакументы. Адхадзіўшы ўсю вайну ў кірзавых ботах, вучыліся насіць туфелькі. Да гэтага часу памятаю аповед... Пасля вайны былая кулямётчыца, узнагароджаная двума ордэнамі Славы, атрымала ў спецыяльнай краме адрэз на сукенку. Гордая і шчаслівая, прыходзіць у атэлье: «Хачу сукенку!» — «Якую?» — пытаюцца ў яе. — «Сукенку!» — «Якую? Доўгі рукаў, кароткі? Вытачку? Што канкрэтна Вы хочаце?» — «Я хачу сукенку...» Яна нават не ўяўляла, што сукенка можа быць такой ці вось такой, бо пайшла на вайну ў шаснаццаць гадоў, вярнулася ў дваццаць. Да вайны жыла ў беднасці — даношвала сукенкі старэйшай сястры. І нічога, апроч свету вайны, не ведала... Вось пра гэта я і пыталася: пра чалавечы свет, як яго атрымалася зберагчы сярод смерці. А не пра тое, як адны людзі гераічна забівалі іншых...

Калі мы з маім бацькам размаўляем пра вайну, я выразна разумею, што мы — зусім розныя людзі і прадстаўнікі ўжо абсалютна розных светаў. І яны, гэтыя жанчыны, яго аднагодкі. Але я даставала з іх зусім іншыя тэксты. Напрыклад, пытаюся ў жанчыны-санінструктара: што самае страшнае на вайне? Яна адказвае: «Не бой, а час пасля бою. Мы, санінструктары, ішлі і ўзіраліся ў забітых, рассыпанных, як бульбачка, прыслухоўваліся: раптам чалавек не забіты, а толькі паранены, хоць і ляжыць як забіты? І ты ўжо не распазнаеш: немец гэта ці рускі. Проста бачыш маладых прыгожых хлопцаў. Расшпілены каўнер кашулі, адляцела шапка, раскіданыя валасы... Да гэтага часу памятаю: у маладым жыце ляжыць малады прыгожы немец і — у неба глядзіць. Я доўга над ім стаяла: які прыгожы хлопец!..»

Жанчыны і далі кнізе тую інтанацыю, якая супала з часам, — гэта была інтанацыя пачварнасці, недасканаласці нашага жыцця. Іх апавяданні перакулілі мужчынскі свет. І хоць думаю, што гэтая інтанацыя ніколькі не зменшыла героікі вайны, тым не менш кнігу два гады не друкавалі.

Мяне абвінавачвалі ў пацыфізме. Гэта потым, калі прыйшоў да ўлады Гарбачоў, кніга выйшла, а яе агульны тыраж дасягнуў двух мільёнаў...

*— Вы не раз казалі пра тое, што разам са сваімі героямі занятыя «сутворчасцю». Аднак у якой ступені адпавядае тое, што кажуць Вам людзі, таму, што ў выніку і з’яўляецца на старонках кнігі? Наколькі дакументальныя і мастацкія Вашы кнігі?*

— Так, я шукаю людзей узрушаных, якія задумваюцца не толькі над асабіста перажытым, але і над сэнсам нашага існавання ўвогуле. Людзей эмацыйна таленавітых. З пяцісямі аповедаў для кнігі выбіраецца ў сярэднім адзін. Часам гаворым цэлымі днямі або сустракаемся па некалькі разоў. Дакумент — гэта аповеды. Дакумент — гэта і я, гэта значыць той, хто робіць адбор, выбар. Часам са ста старонак застаюцца дзве. Сапраўднасць нараджаецца з мноства. У кожнай кнізе звычайна дзесяць-дваццаць апорных аповедаў. Кніга павінна мець апірышча гэтаксама, як і дом. Гэта нават не падмурак, таму што падмурак можна заліць з масы камянёў. Я не архітэктар, не будаўнік, але думаю, што па законах фізікі ў падмурку дома павінны быць нейкія восі, асноўны ўпор. Вось чаму ў доме адну сценку можна зносіць, а іншую — хоць ты трэсні! — не? Гэтак жа і тут. А моцныя аповеды патрабуюць асаблівай працы. Але, вядома, смешна думаць, што я цалкам пераношу аповеды людзей у свае кнігі. Аднак у той жа час не павінна быць ніякай падробкі ні па фактах, ні — самае галоўнае — па пачуццях. Я павінна перадаць думкі і адчуванні менавіта таго чалавека, з кім размаўляла. Тым больш што практычна ў кожнай кнізе — хор з розных узростаў, розных сацыяльных слаёў: простая дзяўчынка, дзяўчынка з інтэлігентнай сям’і, прыгожая ці непрыгожая дзяўчына, гарадская або вясковая. Вельмі важна перадаць вобраз часу і вобраз чалавечай масы, бо гэты жанр спрацоўвае толькі на моцных эпічных тэмах. Я думаю, што ён патрабуе экзістэнцыяльных або эпічна магутных плыняў…

Да гэтага часу памятаю адну з цудоўных сваіх гераінь — жанчыну-танкістку. У яе быў шчыры, сумленны аповед. Я пераслала ёй рукапіс. Тыдні праз два яна даслала ліст — паўсюль пытанні і клічнікі! «Дзяўчынка мая! — пісала яна ў суправаджальным лісце. — Ты пакінула, вядома, праўду. Але гэта ўсё я распавяла табе толькі для таго, каб мы з табой паплакалі, каб ты зразумела, як цяжка нам было. Але ты яшчэ маладая. І не ведаеш, што пісаць, міленькая мая, трэба зусім пра іншае...» Да рукапісу былі прыкладзены чатыры ці пяць агульных сшыткаў — справаздача аб ваенна-патрыятычнай рабоце, якую яна вядзе ў маскоўскіх школах!..

Тое ж паўтарылася з «Цынкавымі хлопчыкамі»… Яны, маці, пра ўсё мне распавядалі! Але прачытаць у кнізе хацелі зусім пра іншае: пра тое, што сыны-героі загінулі не дарэмна…

Думаю, што гэта наша культура барацьбы, у якой мы жылі (а хутчэй за ўсё, гэта была прапагандысцка-ваенная культура), навязала ім гэтую гераічную патэтыку, якая не прызнае каштоўнасці пачуццяў, перажыванняў і ўласнага жыцця. І вось гэтыя жанчыны чакалі ад мяне, што я зраблю гэтак жа, як і іншыя журналісты, якія прыходзілі да іх. Яны ім распавядалі адно, а ў газетах з’яўлялася зусім іншае: там раптам нараджаўся вобраз геройскага хлопца, які перагарадзіў шлях ворагам. Гэта значыць, досвед іх чалавечых пачуццяў, іх уласнае асэнсаванне таго, што ж мы такое, чаму гэта ўсё з намі адбываецца, і што мы наогул разумеем пра сэнс чалавечага жыцця, — усё гэта лічылася не галоўным… Самае цяжкае для мяне — не канфлікт з уладай (з ёй якраз усё зразумела!), а з масавай свядомасцю, якая сілкуецца міфамі. Развітацца ж з міфамі вельмі балюча. Яны сядзяць у чалавеку дужа глыбока, дзесьці на падсвядомым узроўні. Далей і глыбей за словы...

*2001*

## «Збіраю досвед чалавечага духу»

*— Але ж Вы разумееце, што свет кнігамі не змяніць — нават калі сказаць самую жорсткую праўду?*

— Так, але, калі б не было кніг, чалавек, магчыма, канчаткова ператварыўся б у агрэсіўную жывёлу. Калі не будзе працаваць чалавечы дух, свет будзе яшчэ страшнейшы. Чэхаў у пачатку XX стагоддзя пісаў, што праз сто гадоў людзі будуць прыгожыя, сам свет будзе прыгожы. Але стагоддзе прайшло, і што мы бачым: Чарнобыль, бясконцыя войны, страшна стала ездзіць нават у метро. Думаю, сёння ніхто з пісьменнікаў ужо не напіша, што праз новыя сто гадоў свет будзе цудоўны, таму што ён будзе яшчэ страшнейшы. Нашыя страхі сёння ідуць далей не толькі за нашу свядомасць, але і за ўяўленне. Яны прымаюць такі выгляд, да якога мы не гатовыя ні як біявід, ні як людзі культуры. Таму вельмі важна ўмацоўваць дух чалавека. Я ж не калекцыяную пакуты — я пішу дзеля таго, каб сказаць людзям: выпрабаванні бясконцыя, і трэба набірацца мужнасці і сілы хоць бы ў досведзе чужых пакут. Перш за ўсё я збіраю досвед чалавечага духу.

*2004*

## «Яны не маглі судзіць мой светапогляд»

— Новыя часы прыйдуць непазбежна... Талстой казаў, што гісторыя робіцца намаганнем мільёнаў воль. Хоць гэтыя высілкі не асэнсаваныя нават на падсвядомым узроўні. Гэта значыць, што ўжо дзейнічаюць нейкія энергетычныя законы. Памятаеце, у Талстога Кутузаў гаворыць перад Барадзінскай бітвай, што так, заўтра ўсё зраблю я, зробяць мае генералы, але галоўнае адбудзецца без нашай волі. Ці іншы прыклад: рэвалюцыя 1905 года, а затым — дванаццаць гадоў цішыні, падчас якіх былыя рэвалюцыянеры перавучыліся на адвакатаў або крамы паадчынялі. А потым раз — і рэвалюцыя! Гэта значыць, энергія назапашвалася-назапашвалася, а потым раптам адбылася нейкая хімічная рэакцыя — рэакцыя ўжо на метафізічным узроўні. Бо і на рэвалюцыю 1917 года мала хто звярнуў увагу — на штурм Зімняга, на чырвонаармейцаў, якія раз’язджалі на грузавіках... Гістарычныя падзеі заўсёды мала прагназаваныя. Тым больш цяпер, калі настаў час, я б сказала,

натхнення зла. Гэтае зло ўжо паўсюдна. Яго ніколі нельга было растлумачыць, а сёння — тым больш...

Галоўнае, калі наступяць новыя часы, каб мы адразу маглі пачаць працаваць на нашу будучыню. Нам вельмі многае трэба будзе наганяць. Мы занадта адсталі ад усяго свету. Таму і лічу, што адна з асноўных нашых задач — захавацца як асоба і зрабіць сябе як прафесіянала. У сённяшніх умовах гэта, бадай, адзінае, што мы можам зрабіць для ўласнай будучыні — і асабістай, і агульнай. А калі ўсе раптоўна стануць рэвалюцыянерамі... Я б не хацела, каб прафесійны рэвалюцыянер потым лячыў мне зубы або шыў сукенку.

*— Адно Ваша інтэрв'ю называлася «Мы дазволілі ўладзе так абыходзіцца з сабой». Ці не таму, што Вы не жадалі дазваляць уладзе кіраваць Вамі, Вы і не жывяце ў Беларусі?*

— У гэтым сэнсе мне бліжэй пазіцыя Бродскага, які не любіў рабіць сабе палітычнай рэпутацыі. Так, я магу сказаць, што мае кнігі не друкавалі і не друкуюць, што за іх мяне судзілі, але, з іншага боку, я магла б жыць тут — ніхто ж не бегае за мной з аўтаматам Калашнікава. Ну, можа быць, пабілі б у пад'ездзе... Але мы выраслі ў супрацьстаянні чалавека і ўлады, таму ведаем, як ёй супрацьстаяць. Урэшце нам жа вядома, чым заканчваецца спрэчка цара і паэта, — перамога чалавека мастацтва непазбежная.

*— Але бывае, што прыходзіць яна пасмяротна.*

— Так, але гэта іншая размова... Я вось ніяк не магу забыць траўму, якую нанёс мне тады суд. (Гаворка пра судовы працэс пачатку 1990-х з нагоды кнігі «Цынкавыя хлопчыкі». — *С. Ш.*) Гэта была менавіта траўма, а не параза...

Памятаю, прыходжу ў залу судовых пасяджэнняў і сустракаю адну жанчыну — гераіню маёй кнігі, якая ў сваёй маленечкай кватэрцы ў вар'яцтве грукала па вечку труны і пыталася: «Ці ты там, сынок? Ты быў такі вялікі, а труна такая маленькая...» (Гэта ўжо потым, калі я паехала ў Кабул, даведалася, што часам хавалі і паўвядра мяса — каб хоць кавалачак матэрыі даслаць маці.) І раптам сустракаю гэтую жанчыну ў судзе. «А вы што тут робіце?!» — пытаюся ў яе. «А мне не патрэбна твая праўда! — адказвае яна. — Мне патрэбны сын-герой». І гэта ў той час, як яна крычала мне ля труны: «Напішы ўсю праўду! Напішы, што сын дачу генералу будаваў! Яго нават страляць добра не навучылі!..» І цяпер яна прыйшла ў суд... Не буду называць яе прозвішча, не ведаю, што з гэтай жанчынай цяпер. Многія з гэтых маці не перанеслі страты сваіх сыноў і памерлі. У дадзеным выпадку мы проста гаворым пра чалавечую прыроду ўвогуле... І вось гэтая жанчына распавядае, што аднесла ў школьны музей сшыткі і дзённікі сына — яна вырашыла, што менавіта гэта будзе найлепшай памяццю пра яго... А ў той жа час каля будынка суда стаялі людзі і крычалі матулям, якія лічылі, што я з іх дзяцей-герояў зрабіла забойцаў: «Вы здрадзілі сваім дзецям! Вы таксама сталі часткай гэтай хлусні! Значыць, потым падмануць і вашых унукаў!» Уласна кажучы, так яно і адбылося...

І вось, знаходзячыся на гэтай барыкадзе, я раптам адчула, што раблюся не мастаком, а такім жа чалавекам са стрэльбай, калі не бачыш нічога, апроч мішэняў і нашых — не нашых. Але мастаку павінны быць цікавыя і кат, і яго ахвяра. І Сталін, і яго ахвяры, і Лукашэнка, і яго ахвяры...

На барыкадзе вы страчваеце зрок — свет перастае быць каляровым, і вы не думаеце пра нейкія экзістэнцыяльныя рэчы, пра трагічнасць існавання чалавечага ў гэтым свеце. Вы выпадаеце з агульнага сусветнага кантэксту, які пазнейшыя нацыянальныя праблемы сёння ўжо не вырашае — свет заняты іншымі пытаннямі... І я пачала ўсведамляць, што мой унутраны «інструмент» псуецца, што я перастаю адчуваць музыку часу... Калі Флабер гаварыў пра сябе, што ён — чалавек-пяро, дык я — чалавек-вуха. Маё вуха ўвесь час на вуліцы — я ўвесь час «выглядваю», «выслухоўваю» рытм нашага часу. Але аднойчы, паўтаруся, раптам зразумела, што на вуліцы ўжо іншая музыка, а мой «інструмент» яе не бярэ! Таму мне і захацелася ўбачыць свет, як казаў Чкалаў, з пункту гледжання «шарыка»... Так што звязваць мой ад'езд за мяжу з чыста палітычнымі рэчамі было б вельмі проста.

*— Яшчэ раней Вы казалі, што здольнасці трымаць удар Вас навучыў прыклад Васіля Быкава і Алеся Адамовіча. Але Вам здаралася прапускаць удар?*

— Мне цікава толькі інтэлектуальнае супрацьстаянне. Усе астатнія рэчы мяне не кранаюць — хто што пра мяне гаворыць, якія ходзяць чуткі... Самае страшнае ў нашым жыцці — гэта страта блізкага чалавека і страта кахання. Усё астатняе — спадарожнае. Усё астатняе пераводзіцца для мяне ў сферу інтэлектуальнага. Справа ў тым, што само жыццё больш драматычнае, чым нават тая сітуацыя, у якой мы сёння жывем… Вядома, страшна: адны людзі ў нас знікаюць, іншыя сядзяць па турмах... Але будзе яшчэ страшней, калі мы не пакінем у мастацтве ніякіх сведчанняў пра тое, што з намі адбывалася. Зразумець, дакапацца да гэтага не менш важна, чым галасаваць за новае жыццё. А мы не робім гэтую працу. Вядома, з аднаго боку, немагчыма сысці з барыкад, а з іншага, калі ты пісьменнік, мастак, усё ж такі і з барыкады трэба паглядаць на неба.

*— Аляксей Карпюк прыгадваў: пачатак 1970-х, Салжаніцын хацеў надрукаваць п'есу ў часопісе ў Макаёнка, але не атрымалася, тым не менш Аляксандра Ісаевіча гэта зусім не засмуціла, больш за тое, ён распавядаў анекдоты, якія хадзілі пра яго ў Маскве. І гэта ў тыя гады, калі яго на ўсю моц шальмавалі, калі ён ужо прайшоў праз перагрусы і выключэнне з Саюза пісьменнікаў, калі КДБ не раз канфіскоўваў яго творы...*

— Проста Салжаніцын быў вышэй за гэта… Памятаеце, у «Вайне і міры» П'ера Бязухава вядуць на расстрэл, і спачатку ён адчувае страх, а потым раптам пачынае смяяцца: «Мяне расстраляць? Маю несмяротную душу? Ды няўжо гэты французік можа мяне расстраляць?..» Гэтак жа і пісьменнік — калі ён думае пра сур'ёзныя рэчы, ён існуе ў зусім іншай прасторы. І гэта не пагарда — гэта проста стан духу, які вы выхоўваеце літаральна штодня. Бо я ж не толькі кнігі пішу, мой галоўны клопат — гэта праца над сваёй душой. А калі я буду знаходзіцца на ланцугу ў часу, што я напішу? Стану яшчэ адным Чаргінцом?.. Таму каго тады судзілі? Маю кнігу. Але яны не маглі судзіць мой светапогляд, маю несмяротную душу. Не маглі перашкодзіць мне думаць пра таямніцу жыцця.

*2006*

*Фота аўтара*

# Демократия —



**Некто Рудольф Штайнер (если кто не знает — знаменитый антропософ и кумир современных хиппи) еще 100 лет назад заявил о несоответствии нас… и демократии, имея в виду не только конкретно белорусов, а всех, живущих на территории бывшей Российской империи.**

*Марина БЕЛЯЦКАЯ*

Я, кстати, тоже раньше не знала этого Штайнера. А вот теперь пришла к выводу: австрийский философ и социальный реформатор — чистый провидец! Придумал антропософию на основании теории Гете, который, в свою очередь, утверждал, что мышление «…такой же орган восприятия действительности, как глаз или ухо. Так же, как последние воспринимают цвет или тон, так же мышление воспринимает идеи».

Вот поглядим теперь на нашу жизнь: нам о демократии и европейских ценностях 20 лет талдычат, идеи соответствующие до ума доводят. А мы 20 лет одного и того же человека выбираем — и тут же сетуем на то, что он, мол, о демократии слышать не хочет. При этом ценности мы по-прежнему разделяем! И об идеях по-прежнему рассуждаем. И вот, наконец, нам надоело, и мы даже сходили в 2010-м на Плошчу, расшатали недемократичные устои (чуть ли не до второго тура). А в 2015-м нам милей опять Лукашенко. Или потому, что других кандидатов на сей раз не нашлось? Или потому, что царь, переизбранный вроде демократическим путем, нам видится не царем?

Верить в антропософию — науку, которая по сей день занимается исследованием духовного мира индивида, — никто не обязан. Ну и Бог бы с ней, с наукой. Но вот почему-то же Штайнер решил, что наш с вами мир формируется мышлением, не способным идею демократии воспринимать! Причем — на генетическом уровне! И по всему выходит, что австриец был чуточку прав, только не объяснил: отчего нам по сей день подавай царя, батьку или их гибрид.

И вот, наконец, спрашивается: к чему тут прививать демократию? На какую ветку? Ведь ладно бы ЦИК опять бюллетеней наштамповал. Даже если и наштамповал — все равно и без них победил бы нынешний президент, да еще с отрывом.

По крайней мере, конкретно: в д. Сенница Минского района.

## Сенница

Договорились мы с ЦИКом, чтобы съемочную группу пустили на какой-нибудь участок — буквально накануне закрытия пришло такое в голову. Хотели сначала махнуть в Дукору, потом — в Раков, но не успевали, отправились поближе — в Сенницу. Причем ЦИК благословил и туда, и туда: куда хотите, говорят, туда и езжайте. И ничего бы в участковых комиссиях не успели причесать к нашему приезду, ибо решили мы спонтанно, явились быстро — народ еще шел голосовать. И, главное, на избирательном участке нам оказались рады (не то, что раньше). Там, в танцзале Центра культуры, было сразу два участка. И на обоих нас встретили спокойно — и голосующие, и те, кто «демократический процесс» осуществлял.

— За кого проголосовали? — спрашиваю у молодой пары с малышом.

— За Лукашенко.

— А вы? — интересуюсь у директрисы Сенницкого Центра культуры.

Она говорит:

— Мы все за Лукашенко.

И наблюдатели, по всему видать, — местные, тоже говорят: мы — за Лукашенко.

— Ну, это понятно, — отвечаю я и решаю их напугать: — Мы снимать будем подсчет голосов вплоть до упаковки бюллетеней.

А они говорят:

— Хорошо.

# это не наше?

Пришло время, закрыли участок. Первыми опустошали урны с досрочным голосованием. Оператор ходил с камерой и везде совал нос. Остальные члены группы мобильниками ради развлечения снимали: как перебрасывают бюллетени в разные стопки. Некоторые считающие пальчиком прикрывали предварительные цифры и выразительно переглядывались. Но подсмотреть все равно было легко, наши нахальные действия счетную комиссию не раздражали.

Наблюдатели вообще сидели в углу и болтали на какие-то свои темы. Впрочем, им это быстро надоело, и одна дама-наблюдатель стала у меня отпрашиваться домой. Можно, говорит, мы уже пойдем?

Я, конечно, удивилась: почему это она отпрашивается у меня?! А она: «Вам нужно, чтобы на “картинке” были наблюдатели, я и подумала: нас же уже отсняли! Чего сидеть?» Я спросила: «А вы разве наблюдать не станете, как на столах считают?» Она говорит: «Мы должны смотреть только, чтобы вброса не было и чтобы агитации никакой, и в кабинки чтобы по двое не заходили». — «А как же вы увидите из этого угла, что нету вброса?» — «Так его же (вброс) только раньше могли сделать?! — опытная наблюдательница почему-то сделала грустное лицо: — А сейчас-то… Чего ж?»

Услышав про «раньше», я вернулась к столам, чтобы повнимательней проинспектировать стопки (сколько кому из досрочного короба в итоге набросали). И выяснила, что за Короткевич, которую пару месяцев назад вообще никто не знал, на досрочном голосовании в Сеннице на одном участке проголосовали 115, а за Лукашенко — около 480. Ну и 18 и 21 — за Гайдукевича и Улаховича.

В общем, если и был «вброс», то какой-то странный. Потому что, увидев веселенькую стопку дебютантки и не тощую «против всех», руководители двух избирательных комиссий растерялись. Было видно даже, что испугались. То есть — не ожидали! Я и сама не ожидала. У Короткевич в первом же коробе, теоретически доступном для подтасовки, оказалась почти четверть голосов! Если кому-то надо было увеличить разрыв с главой государства (чтобы не позорно было) и кто-то тайно таки вбросил за президента, то количество проголосовавших людей и бюллетеней точно не совпадет.

Я не знаю, чего ожидали в результате подсчета руководители избирательных участков, но лица обеих женщин через полчаса после вскрытия первой урны покрылись красными пятнами.

А оператор наш все ходит со своей камерой, а мы — со своими мобильниками.

Тут к томящимся наблюдателям подрулила молодая интересная особа. Она сказала «наблюдению»: если хотите уйти, то идите, я за вас посижу. Те покосились на нас и не решились покинуть «пост». Тогда подрулившая стала вслух нервничать. Даже выступила перед нами с речью по поводу мобильников: вы, мол, почему на свои телефоны снимаете — потом будете в фэйсбуке под чужим именем размещать? Я, говорит, буду на вас писать. Я — госслужащая.

Никто на эту речь не отреагировал — ни мы, ни наблюдатели. И особа продолжила волноваться одна.

Через два часа подсчеты закончились. Выяснилось, что все цифры сошлись, но женщины, руководившие процедурой, еще больше напряглись.

— Раньше, — сказали они, — мы все время пересчитывали — до двух ночи сидели, не сходилось, а тут с первого раза сошлось… Странно это. На часах — всего-то около 22-00! Что-то тут все-таки не то. Надо проверить.


*Я смотрю, как считают*

Пересчитали бюллетени еще раз, убедились, что лишних точно нет. На лица ответственных за процесс, наконец, вернулся их прежний цвет.

— Мы так быстро и четко сработали — от страха, потому что под камерами, — сообразила директриса и вдруг искренне, легко так, рассмеялась. Выяснилось, что она, когда не красная и улыбается, очень приятная на вид.




*Стопки Лукашенко и Короткевич на избирательном участке 83*

В 23-00 голоса за Лукашенко были завернуты в обои (в стандартный пакет не поместилось все большущее волеизъявление «за Него»). Комиссия вздохнула с облегчением.

По итогу, с учетом второго участка и голосования на дому, выходило, что у Короткевич все-таки не четверть, но все равно больше 10 процентов. Если где-то по стране за нее не голосовали вовсе, то вполне могло быть, что набрала она действительно свои почти 5 процентов. Но, скорее, все-таки голосовали за нее везде, и потому в целом процент должен был быть раза в 2–3 больше. Хотя, глядя на сверток из обоев, понимаешь, что это не меняет сути дела.

Выборы в Сеннице были очень похожи на нормальные выборы. Более того: могу засвидетельствовать, что члены избирательной комиссии сами удивились: и успеху Короткевич, и размеру стопки «против всех», и тому, что про это кто-то посторонний узнал, и тому, что они сами об этом вслух сказали. И главное — тому, что им за это, сказанное вслух, в этот раз ничего не будет.

## А хай бы не было войны

Что бы там ни говорили, но результаты выборов свидетельствуют: белорусы всерьез испугались войны (кто нас за это осудит?). Мои дачные друзья именно так свою переориентацию на Лукашенко и объясняют (в 2010 году голосовали за Санникова).

Вот их коллективная мотивация:

«Соперники у президента на сей раз были неопасные. Скорее, даже "для мебели". И это ведь не только из-за последствий Плошчы. Это сигнал о том, что сегодня даже декларировать сопротивление в Беларуси не популярно — народ бы все равно не поддержал. Никто из кандидатов о переменах особо и не говорил.

Короткевич была лишь фигурой, на которую поставили, так как не придумали ничего лучшего. Но выбор оказался удачным: она понравилась людям. И со временем вполне могла бы попасть во власть на той же волне, что и Лукашенко (надоели политики). Появление Короткевич на политической арене хоть и успешное, но все же случайное, а голосовать за "кота в мешке" из народа — это мы уже проходили.

Личностей среди оппонентов пока нет, не на кого даже и ставить. Доверить кому-то из них страну в этот исторический момент никак нельзя. С другой стороны, действующий уже "наелся" и воспринимает Беларусь как личную вотчину, и потому будет честно охранять СВОЮ власть и собственность от внешних посягательств, насколько это возможно опять же в текущий исторический момент.

Совершенно ясно, что без серьезного сопротивления главное кресло президент не отдаст. Допускать конфликт, когда вокруг взрывоопасно… хватит переживаний из-за Крыма и Донбасса — плохой прецедент!»

Этими соображениями делились не только мои друзья-приятели и коллеги, но и избиратели на Сенницком участке для голосования № 81, которых нам удалось опросить.

На фоне таких настроений даже Запад решил сменить пластинку, видимо, смекнув, что Беларусь не надо сейчас отталкивать. Вот уже и Обама с Колей фотографируется, и санкции обещают на время заморозить, а некоторые даже подумывают, не признать ли выборы легитимными. И пусть пока не признали, но наш-то электорат решил, что в сложившейся обстановке Запад оценил белорусского президента. И потому он, электорат, в очередной раз сделал правильный выбор.

Интересно, что думает по поводу «потепления» отношений сам Запад?

За день до выборов в минской гостинице «Европа» проходило заседание пресс-клуба — встреча с зарубежными журналистами.



**Михал Потоцкий** из польской «Dziennik Gazeta Prawna» поделился своими соображениями на этот счет: «Отмена санкций, которая реально возможна после выборов, прежде всего, будет связана с тем, что случилось после Крыма и после войны в Донбассе».

***— То есть западные политики прикинули: надо использовать всякую возможность для того, чтобы Беларусь целиком не попала в объятия России? И не «усилила» ее базами. Отмена санкций могла бы быть сигналом: вы не потеряны для человечества. Так?***

— Такое может быть, — не совсем согласился Михал. — Только не отмена санкций, а замораживание. Запад может устроить даже то, что обстановка после этих выборов будет выглядеть если не демократически, но все-таки

нормально. Уже это даст возможность попытаться наладить отношения. Я имею в виду, что на фоне политического влияния России, особенно после событий в Украине, в Крыму и Донбассе, для многих европейских политиков поведение Александра Лукашенко было сюрпризом. Он не поддерживал политику России и достаточно часто высказывался, нейтрально оценивая происходящее. По поводу войны в Грузии он тоже занимал нейтральную позицию. Не признал Абхазию и Южную Осетию, несмотря на то, что российская сторона пыталась уговорить его. Это дает надежду Европе на то, что можно с Лукашенко договориться, чтобы он и дальше оставался нейтральным политиком на этом витке новой холодной войны между Россией и Западом.

***— Как, по-вашему, Россия себя поведет, если вдруг (ну — вдруг!) наша страна возьмет курс на Европу — и ее там примут?..***

— Ну… об этом рано говорить, наверное. Но если такое бы случилось, реакция Москвы не была бы положительной, потому что Москва всегда отрицательно реагировала на любые попытки стран бывшего Советского Союза наладить близкие отношения с западными государствами. Я думаю, что после выборов мы будем наблюдать, как Беларусь станут более настойчиво уговаривать по поводу баз и вообще военного сотрудничества.




Фрилансер из Чехии (в миру — преподаватель финского языка в Карловом университете) **Тимо Лайне** приехал на наши выборы как частное лицо просто потому, что ему интересно все, что произошло в Украине и чуть не произошло в 2010 году в Минске. Он хотел бы пожелать Майдана белорусам. Но удивлен, что многие белорусы от этого пожелания шарахаются. А украинцам он желает, чтобы они продолжали свой Майдан до тех пор, пока не покончат с коррупцией. Тимо не смущает, что процесс до сих пор не начат: «Всему свое время, — сказал он. — Это будет медленно, как в Эстонии. А революция важна сейчас!»

В знак солидарности с протестным потенциалом Украины и Беларуси Тимо носит значки с бел-чырвона-белым флагом (в Минске) и футболки с политическими надписями (в Украине), что для иностранного журналиста, по меньшей мере, странно. Однако вскоре выяснилось, что назвавшийся фрилансером преподаватель на самом деле не пишет в СМИ, не слишком хорошо разбирается в том, что происходило и происходит у нас. Зато митингует: и в Киеве, и в Минске (на Площади в 2010-м), и в Крыму, и в Донбассе. И в Киргизии, и дальше — на Восток. Он вообще объездил около 70 стран, тем и интересен — сам по себе. Он из когорты тех, кто путешествует не просто по миру, но еще и по постсоциалистическим баррикадам и получает от этого некий романтический кайф. Этот живущий в Чехии финн путешествует в свободное от работы время и потому, как мне показалось, не успевает во время коротких вояжей вникнуть в суть происходящего в посещаемых им странах. Он толком не знает персонажей, но его представление, к примеру, о белорусах универсально и популярно на Западе. Тимо категорично настроен против Лукашенко и его правления, полагая, впрочем, что не только он, но и все белорусы продолжают быть носителями «коммунизма». Коммунизм, по мнению Тимо, у всех у нас — в головах. И это несмотря на то, что в стране — феодализм.

Поэтому потепления со стороны Запада он представить даже не может:

— Украина показала вам, что такое настоящая возможность для людей — выбирать. Им в этом помогла революция. Я понимаю это так: тут у вас везде нужна революция, ведь только одна вещь хуже для Путина, чем революция в Украине. Это революция в России.

***— И в Беларуси?***

— Да, и у вас. Но… если бы белорусы решили, например, что «мы больше Лукашенко не хотим», то… гм… Лукашенко, конечно, этого не допустит. Тогда надо, как в Украине? Но… тогда Россия уже не допустит. Потому что, если не будет Лукашенко, а будет кто-то другой, то это должен быть человек, который будет вести такую политику, какую хочет Кремль…

***— Это понятно. Но что же в итоге будет с нашей революцией, у которой столько «но»? Как вам кажется со стороны?***

— Мне кажется, революция все равно нужна. Потому что отношения Беларуси с Западом всегда будут иметь какие-то «границы» из-за России. Я понимаю, что на Западе есть много людей, кому приятно, если Лукашенко скажет что-то против Москвы. (Что он не совсем с Путиным согласен.) Но все-таки этого мало. На Западе все видят, что здесь у вас нет демократии. Ваши люди сами ее не хотят. Вот это проблема. Если бы изменения произошли, тогда, конечно, Запад бы поддержал новые власти, как это происходит сейчас в Украине после революции. Но ваши люди не хотят ни демократии, ни революции! У них в головах коммунизм.

***— Тимо, а вы хотите у себя под окнами революцию? И последующую игру Запада с Россией в перетягивание каната? И, возможно, последующую за этой игрой войну — пусть в отдельно взятой финской провинции или даже локально — общине? С настоящими смертями?***

— А у нас в Финляндии такого быть не может, нам не надо, у нас все хорошо.

***— А у нас вот не все хорошо. Но лично я революцию со смертями все равно не хочу.***

— Значит, лично вам лучше феодализм, — съязвил собеседник, но я не осталась в долгу:

***— Мне лучше, чтобы из-за призывов политиков и революционных «романтиков» не погибали люди.***

## Контора пишет

Сколько бы западные журналисты ни пытались постичь наш недемократичный духовный мир, все равно они не смогут соревноваться с моими недавними

попытками проникнуть в головы идеологов из окружения президента. Вот у кого мышление фантазийное! Казалось бы: глава государства и обслуживающий его информационный аппарат должны радоваться тому, что понемножечку президента перестают называть диктатором. И почему бы им не быть довольными еще и оттого, что на выборы приехали журналисты с Запада не только с желанием критиковать?



**Стивен Дерикс**, работающий на голландскую ежедневную газету «NRC Handelsblad», как раз явился в Минск перед выборами с целью написать непредвзятый портрет Лукашенко. Например, ему интересно, что думают о президенте белорусы: противники и соратники. Поспрашивал Стивен у разных людей совета: с кем бы ему встретиться и поговорить.

Ему назвали: 1. Николая Статкевича; 2. Анатолия Лебедько; 3. Татьяну Короткевич; 4. Кого-то с сайта «КУКУ» — и дальше не помню, кого еще. С ними он встретился. Но еще хотел: 1. Съездить с Лукашенко в предвыборную поездку; 2. Пообщаться с теми, кто его поддерживает идеологически; 3. Поговорить с доверенными лицами или друзьями.

— С ума сошел, — поставила я Стивену диагноз. — Четверг уже! А в воскресенье выборы. Это же надо было заранее готовиться, чтобы хоть один пункт по «соратникам» выполнить! Такие дела так не делаются!

Коллега посыпал голову пеплом, признался, что «не подготовился», но все равно хочет поехать в поездку и… — дальше по списку. Пришлось вести рекогносцировочные работы. Выяснилось, что поездка президента с пулом была в среду, и никто бы иностранца, даже аккредитованного, но свалившегося вчера непонятно откуда, к телу бы не допустил. Но можно (если быстро, прямо сейчас, написать заявку от редакции) успеть аккредитоваться в воскресенье на участок, где президент будет голосовать. Это мне показалось разумным решением (пусть и не конструктивным). Но хоть бы живьем на Лукашенко с сыном посмотрел! Стивен этот план отверг. Чего смотреть зря? Надо поговорить!

Голландец попросил найти кого-нибудь, кто мог бы рассказать о президенте — простым человеческим языком. Кого-то хоть из доверенных лиц, что ли. А то он только одну сторону выслушал.

Ладно, звоню разным людям, которые советуют взять кого-то из доверенных, кто, скорее всего, не откажется. Тот, кого посоветовали, и правда не отказался и даже вроде как с энтузиазмом захотел. Более того, решил привести «толмача своего», чтобы голландец, говорящий порусски далеко не виртуозно, все понял, «как надо». И, наконец, обещано было притащить товарищей по партии «Белая Русь» — подкрепление, которое добавит к президентскому портрету красок. Когда все обсудили, звоню Дериксу и обещаю полный ажур.

Стивен очень и очень рад. Но через 15 минут мой «доверенный» звонит — сильно огорченный. Рассказывает: пошел он к начальству повествовать о голландце, а оно сообщило, что ничего не выйдет.

— Сказали: такие дела так не делаются! — расстроенно повторил собеседник мои же недавние слова.

— А как?

— Надо написать запрос на имя министра информации, и, если решат удовлетворить, поручат общение с иностранным журналистом кому-то из доверенных лиц, не обязательно мне. Там сами выберут достойного. Такая процедура.

— А вы разве не достойны? И… гм, это же сколько времени пройдет? — изумилась я. — Да и в результате все равно откажут, поди. А ведь журналист просто хочет поговорить! Вот сами отказываетесь, а потом на имидж президента сетуете. Человек вынужден разговаривать с теми, кто идет на контакт. А кто идет? Оппоненты. Со стороны государства — всегда шлагбаум! Вечно: «контора пишет»! Чего тогда удивляться, что плохая пресса? Все из-за вашей волокиты! Что такого, если бы без запроса рассказать: почему поддерживаете, что именно, по-вашему, президент сделал хорошего, почему его народ выбирает? Ну или, почему хотя бы вы его поддерживаете? Чего бояться-то? Хвалите на здоровье, имидж лидеру поднимайте…

Так и не уговорила.

А потом и выборы прошли, и президент уехал в Казахстан, не подозревая о существовании Стивена Дерикса, желавшего написать его непредвзятый портрет. В Казахстане Назарбаев от имени остальных 11 глав государств, прибывших на саммит, поздравил Лукашенко с победой. И начался его новый срок.

В Беларуси же все затихло, каждый занялся своими делами. Государство — своими, мы — своими. И никто больше не говорит о демократии. Потому что дело, разумеется, не в ней, а в том, что это, как считают многие, пока не наше. Непонятно и даже обидно. Дело, опять-таки, даже не в «коммунизме» и не в свободе, так присущей европейцам… Это, как говорят, к примеру: «Дело не в деньгах, а в их отсутствии».

***

Некоторые народы всегда живут в соответствии с принципами демократии (потому что знают, зачем она нужна), некоторые — иногда (потому что знают, когда она полезна). А некоторые вовсе не хотят освоить «метод коллективного принятия решений с равным воздействием участников на исход процесса». Потому что они не хотят лично, пусть даже и в равной степени ответственности, но отвечать за «исход».

И внешне это проявляется не только в том, что голосовать не за кого. А и в том, что некоторые, даже когда можно, говорят окружающим «нельзя!», некоторые даже, когда им отчетливо сказали сверху: «мо-о-ожно!», отчего-то покрываются пятнами и дрожат. А иностранцы смотрят на нас, таких странных, и советуют за неимением демократических привычек попробовать изменить себя с помощью революции.

А некоторые у нас не только революции, а вообще ничего не хотят.

Такие вот дела.

# Выключэнні з «суму» выбараў



Фота: В. Драчоў



*Сяргей ПУЛЬША*

**Палітыкі нам шмат разоў казалі: выбары — гэта магчымасці, якія абмежаваныя ў звычайны перыяд часу. Але гэта магчымасці не толькі для палітыкаў, але і для журналістаў. Чыноўнікі становяцца больш дасціпнымі, міліцыянты — больш лагоднымі.**
**Трэба адзначыць, што беларускія журналісты скарыстоўваюць гэтыя магчымасці напоўніцу! Пэўнымі сакрэтамі прафесійных поспехаў яны дзеляцца з «Абажурам».**

## Стрым

Радыё «Свабода» ў гэты перыяд «давяло да ладу» новы спосаб падачы інфармацыі — анлайн-трансляцыі з месцаў падзей, «стрымы».

Калі ўвечары ў дзень выбараў Уладзімір Някляеў, Мікалай Статкевіч і Анатоль Лябедзька склікалі супрацоўнікаў СМІ на прэс-канферэнцыю, то першае, што ўбачылі журналісты на офісе Аб’яднанай грамадзянскай партыі, — палітыкі ўтарапіліся ў экран камп’ютара, дзе ішоў «стрым» з вулічнай акцыі ў Мінску. Вёў яго на «Свабодзе» Валер Каліноўскі.

Амаль усе супрацоўнікі «Свабоды» так ці інакш паспрабавалі сябе ў гэтым спосабе падачы інфармацыі. Пра асаблівасці працы распавядае Аляксандра Дынько.

— Стрым, анлайн-відэа з месца падзеяў, асабліва калі гэтая падзея цікавая для людзей, карыстаецца проста шалёнай папулярнасцю. Колькасць людзей, якія глядзяць гэтыя трансляцыі, умомант павялічваецца — ад пары тысячаў гледачоў, напрыклад, калі мы вялі трансляцыю з сустрэчы на вакзале Мікалая

Статкевіча, да некалькіх дзясяткаў тысячаў у час падзей на Кастрычніцкай плошчы 11 кастрычніка.

Людзі сапраўды цэняць магчымасць, якую даюць ім журналісты, бачыць тое, што адбываецца на месцы падзеяў, там, дзе яны не могуць быць.

*— Але з вулічных рупараў гучыць папрок: гэй, вы там, на канапе…*

— Так, гэта самы распаўсюджаны папрок да «стрыма» з боку палітыкаў і арганізатараў акцый: людзі глядзяць гэтыя падзеі «на канапе» замест таго, каб далучыцца да іх. Але гэта папрок не журналістам, гэта папрок палітыкам. Той, хто хацеў і мог пайсці, — той пайшоў.



Напрыклад, 11 кастрычніка на плошчы было некалькі соцень чалавек, а «стрым» Валера Каліноўскага адтуль глядзелі больш за дзесяць тысячаў чалавек. Улічваючы ўсю сітуацыю, якая адбывалася вакол гэтых выбараў, вакол ідэі плошчы, не выпадала чакаць, што прыйдзе больш людзей, чым там сабралося. А тыя, хто глядзеў «стрым», глядзелі яго з цікаўнасці (колькі людзей туды выйдзе) і з узрушэннем, трывогай за тых, хто туды ўсё ж пайшоў.

Гэта няпростая праца. Для мяне яна была няпростая яшчэ і ў тым, што я не мела ніякага тэлевізійнага досведу. Я памятаю свой першы «стрым»: гэта было вызваленне Алеся Бяляцкага. Аператар проста паставіў мяне перад камерай, даў мне ў рукі мікрафон і сказаў: «Прамаўляй што-небудзь!» Я ніяк да такога не рыхтавалася!

Але ў мяне перад вачыма быў добры прыклад украінскага «Грамадскага тэлебачання». Яны працавалі на Майдане, і ў той час у мяне была магчымасць трапіць да іх у офіс, паглядзець, як гэта робіцца, паразмаўляць з людзьмі. Тады, у 2013 годзе, яны толькі пачыналі, і гэта было сапраўды грамадскае тэлебачанне, туды прыходзілі і прафесіяналы, і непрафесіяналы, і тая шчырасць, з якой яны працавалі на месцах падзеяў, вельмі моцна захапляла. І мне хацелася быць у «стрымах» такой жа шчырай.

Проста бачыш людзей, якія прыйшлі з адкрытымі пачуццямі ў пэўнае месца, і хочацца такімі паказаць гэтых людзей нашым гледачам.

У «стрыме» ёсць таксама цяжкасць — як апынуцца ў гушчары падзеяў? Як падысці максімальна блізка? Напрыклад, на прэс-канферэнцыі Святланы Алексіевіч з нагоды атрымання ёю Нобелеўскай прэміі былі цяжкія ўмовы для працы. Памяшканне было маленькае, людзей было вельмі шмат, і часам здавалася, што нас проста затопчуць. Але, дзякуючы маім маленькім формам (смяецца), мне ўдаецца праціснуцца да галоўных дзейных асобаў.

*— З іншага боку, пэўна, ёсць і іншая цяжкасць: як потым без асаблівых наступстваў выбрацца з гэтага гушчару падзеяў. Ці бывае так, што аператар за вамі не паспявае альбо вы губляецеся ў натоўпе?*

— Так, канешне, асабліва калі вялікая колькасць людзей, бываюць моманты, што мы губляемся з аператарам. Але найперш трэба больш давяраць аператару. Увогуле ў «стрыме» ён галоўны. Тое, што бачыць камера, для гледача больш важнае за тое, што кажа ў мікрафон журналіст. Людзі глядзяць «стрым» не дзеля журналіста (хаця ён таксама істотна палягчае разуменне таго, што адбываецца), а ўласна дзеля самой падзеі.

Калі раней былі «экспрэс-стрымы», у мяне не было магчымасці рыхтавацца да іх, і я актуалізавала тыя веды, якія ў мяне былі. Але вельмі карысна перад акцыяй даведацца, што мае адбыцца, хто арганізатары, якія ў іх планы, хто будзе ўдзельнічаць. Гэтая інфармацыя, якую трэба мець у галаве і якую трэба актуалізоўваць кожны раз. Важна трымацца галоўных герояў. У выпадку з сустрэчай Статкевіча гэта былі сам Статкевіч і ягоная жонка Марына Адамовіч — найперш яна ведала, дзе ён і калі ён прыбудзе, і ейныя эмоцыі таксама былі істотныя. Але ў «стрымах» на масавых акцыях заўжды важныя людзі. Уменне з імі гаварыць, абіраць суразмоўцу, які цябе не пашле адразу, — гэта таксама важна. Калі журналісту шмат разоў адмаўляюць у жывым эфіры — гэта не робіць гонару ні журналісту, ні СМІ, ні эфіру.

Увогуле, беларусы рэдка гавораць на камеру шчыра і адкрыта, калі гэта не палітычныя лідары альбо актывісты. Праўда, скажу і тое, што адмоваў у гутарцы падчас «стрыму» асабіста я пакуль ніколі не чула.

Ёсць яшчэ адзін прыкры бок гэтага эфіру. Я зараз прачытала допіс Юрася Губарэвіча, што ён быў аштрафаваны на 20 базавых велічыняў за «актыўны ўдзел» у акцыі супраць расійскіх ваенных базаў. Таксама былі аштрафаваныя ўдзельнікі шэсця нацыянальнага сцяга. Праглядаючы спісы пакараных за акцыю, я разумею, што праваахоўныя органы адсочваюць нашыя «стрымы», нашыя эфіры і фіксуюць кожнага чалавека, да якога ты падыходзіш з мікрафонам. І пасля ён можа ад гэтага пацярпець.

Што тут можна сказаць, чым супакоіць?

Тое, што гэта дакумент для нашай міліцыі, — гэта часова. Вы заплаціце штраф, і на гэтым, я спадзяюся, усё. А вось тое, што відэазапіс застанецца ў гісторыі, — у гэтым я ўпэўненая. Я веру, што гісторыя — і гэты 2015 год у ёй — будзе фіксавацца ў тым ліку і ў тых «стрымах», якія мы рабілі і робім.

*— Ці цяжка трымаць аўдыторыю дзве-тры гадзіны ля экрана — гэтым разам не тэлевізара, а камп’ютара?*

— Чалавека трымае падзея, а не тое, што ты гаворыш у эфіры. Пакуль разгортваецца падзея і гэтае дзеянне само па сабе цікавае, людзі будуць трымацца каля камп’ютараў. Задача журналіста — знаходзіцца ў самых важных пунктах гэтай падзеі, шукаць цікавых суразмоўцаў, якія вядуць цябе ад кропкі да кропкі.

Аўдыторыя «стрымаў» зусім не такая, якую звычайна мы бачым на нашым сайце. Гэта не сталыя наведвальнікі сайта, не тыя, хто слухае радыё. Аўдыторыя нашмат большая, таму што «стрымы» ідуць у

YouTube, да іх далучаюцца новыя людзі, і нам, канешне, дапамагае тое, што мы пакуль першыя, хто карыстаецца такой тэхналогіяй.

*Хтосьці скажа: «Дык гэта ж “Свабода”, з іх фінансамі і магчымасцямі яны могуць сабе гэта дазволіць!» Але, калі спраўдзяцца абяцанкі нашага Міністэрства сувязі ўжо напрыканцы гэтага года ў Мінску, а ў 2016-м і па ўсёй Беларусі запусціць мабільны інтэрнэт стандарта 4G, тое, што зараз можа «Свабода», будзе даступнае і любому журналісту. Так што, калегі, рыхтуйцеся!*

## Удача сваімі рукамі

«Выбарчае» інтэрв’ю журналіста «Нашай Нівы» Ягора Марціновіча з уладаром «Табак-Інвесту», беларускім алігархам Паўлам Тапузідзісам, было расцягнутае рознымі інфармацыйнымі рэсурсамі на шматкі і цытаты. Хтосьці можа сказаць: пашчасціла, Марціновіч апынуўся ў патрэбным месцы ў патрэбны час — на ўчастку, дзе Тапузідзіс быў кіраўніком камісіі. І алігарху, маўляў, ад няма чаго рабіць захацелася шчыра паразмаўляць з журналістам.

Пашчасціла? Як бы не так! Гэтае шчасце створанае сваімі рукамі. То бок — рукамі Ягора.

*— Ягор, як вы апынуліся на ўчастку Тапузідзіса? Выпадкова?*



— Я падчас кожных выбараў імкнуся прааналізаваць склад участковых камісій: як яны змяняюцца, хто ў іх ёсць, хто з’яўляецца. Так што я даўно ўжо ведаў, што Тапузідзіс будзе кіраўніком на гэтым участку, і хацеў патрапіць туды здаўна. Я думаю, што як для іншых краінаў, так і для Беларусі, гэта не зусім стандартная сітуацыя — каб кіраўнік прыватнага бізнесу ўласнаручна ішоў лічыць бюлетэні. Па-мойму, гэтая сітуацыя экстраардынарная.

Таму патрапіў я туды абсалютна невыпадкова. Я з першага дня зарэгістраваўся на ўчастку як журналіст і прыходзіў туды штодня. Але працэдура выбараў адладжаная, працэс адпрацаваны, Тапузідзіс туды прыязджае толькі ў апошні, асноўны дзень галасавання — пасядзець і замацаваць атрыманыя вынікі.

Там атрымалася крыху смешная сітуацыя. У выбарчую камісію, як вядома, уваходзяць 13 чалавек — і ўсе ад розных партый і грамадскіх арганізацый. Але Тапузідзіс проста, не хаваючы, сказаў мне, што ўсе гэтыя людзі працуюць на яго: бухгалтарка патрапіла ў камісію ад асацыяцыі шматдзетных бацькоў (ці нешта кшталту таго), яшчэ адзін ягоны падначалены — ад ветэранскай арганізацыі, і так усе 13 чалавек. Фактычна ў Тапузідзіса атрымаўся «прыватны» выбарчы ўчастак.

Праўда, ішоў я на ўчастак, не ведаючы, што ў мяне атрымаецца. Ці гэта будзе стандартны рэпартаж з участку, ці ўдасца пагутарыць з бізнесоўцам. На мэце для сябе я паставіў атрымаць фотаздымак Тапузідзіса з выбарчымі бюлетэнямі — як ён персанальна падлічвае галасы. Але — дзякуй самому бізнесоўцу — ён аказаўся чалавекам адкрытым, і фактычна сам запрасіў мяне на размову. Прыкладна ў тую ж хвіліну, у якую прыйшоў я, да яго прыехала здымачная група АНТ. Яны запісаліся, і ён запрасіў на своеасаблівы міні-банкет не толькі аэнтэшнікаў, але адразу і мяне.

Атрымалася, што да заканчэння працы ўчастка мы з ім размаўлялі «за жыццё». І ніякай праблемы ў тым, будзе журналіст на ўчастку, не будзе там журналіста, ён не бачыў.

Ён упэўнены ў сабе чалавек, і для яго не праблема адказваць на нязручныя пытанні. Ён не чыноўнік, ён непадсправаздачны вышэйшаму чыноўніку-кіраўніку, адказваць «за базар» яму няма перад кім. Таму ён быў даволі шчыры. Але, канешне, па першых пытаннях-адказах ён зразумеў, што нашыя з ім сістэмы каштоўнасцяў адрозніваюцца, і на нейкім этапе ў нас з’явіліся ўзаемны тролінг, узаемныя падколкі. Але потым перайшлі да іншых тэмаў, дзе было менш супярэчнасцяў, усё наладзілася. Ён абурыўся толькі аднойчы, калі мы загаварылі пра тое, што Беларусі патрэбны лідар, а я нагадаў яму пра зніклых палітыкаў. Тады ён прыцішаным голасам сказаў, што гэта не тая тэма, якую трэба абмяркоўваць тут.

Апошнія гадзіны паўтары мы абмяркоўвалі сітуацыю з беларускай мовай. Спачатку да маёй пазіцыі ён ставіўся даволі скептычна, але ж мне, падаецца, удалося яго пераканаць. Аднак гэта дарога з двухбаковым рухам. У мяне было шмат пытанняў па «чысціні» ягонага бізнесу. Не з усім, што ён адказаў, я згодны, і магу сказаць, што гэта сумленна, чыста і правільна, але, прынамсі, я разумею ягоную пазіцыю — і разумею, што ў гэтых пытаннях ён не бачыць праблемы. Я думаю, што той жа Чыж ці Шакуцін, тыя, хто шчыльна працуюць з дзяржавай, у глыбіні душы таксама маюць пытанні: ці самастойны я ў бізнесе, ці дасягнуў бы таго, што дасягнуў, без падтрымкі дзяржавы, ці мог бы на споведзі сказаць, што не парушыў законаў па жыцці і ў працы? У Тапузідзіса складаны шлях, але ўсё, што ён стварыў, ён зрабіў сам і на свае грошы. Дзяржава ўжо падыходзіла да яго пасля. Нават у дэмакратычнай краіне з ягонымі менеджарскімі здольнасцямі і арганізацыйным талентам, адчуваннем, што спрацуе, а што не спрацуе, у яго б атрымалася весці бізнес паспяхова, у гэтым я ўпэўнены.

*— То бок гэта было не «чыстае» інтэрв’ю, а працяглая размова?*

— Так, гэта, дарэчы, істотнае пытанне з боку этыкі. Завітаўшы да яго на банкет, выходзячы з ім папаліць, я не папярэджваў яго кожны раз, што нашая размова пішацца і што ўсё сказанае ім можа быць потым скарыстана ў матэрыяле. У мяне ў кішэні кашулі быў мабільнік з уключаным дыктафонам, час ад часу ён міргаў, то бок бачна было, што ідзе запіс. Але, калі да чалавека грамадска значнага ў публічным месцы

падыходзіць журналіст, гэта робіцца не проста для таго, каб паразмаўляць па душах. Прынамсі, ніякіх прэтэнзіяў наконт гэтага матэрыялу ні ад самога Тапузідзіса, ні ад ягонай кампаніі не выказвалася.

*— Вы што, пісалі ўсё запар?*

— Ну, так, гэта была фонавая размова, пісалася ўсё, што ёсць, каля трох гадзінаў.

*— Але ж потым адслухаць гэтыя гадзіны, выбраць самае важнае… Дый у газеце, — а для трох гадзінаў запісу нават у інтэрнэце,— месца ж не гумовае?*

— Усе журналісты прызвычаеныя, што, калі яны размаўляюць з чыноўнікам, то ў гутарцы працэнтаў 70–80 «вады», і гэта ўсё трэба выкідаць, вылучаючы 20 % істотнага. Тапузідзіс жа — не чыноўнік. У яго вельмі цікавыя афарыстычныя меркаванні, ён сябе не стрымліваў і мог сябе не абмяжоўваць. Таму шмат чаго цікавага засталося «за кадрам», там яшчэ многае можна было б напісаць. Была складанасць у тым, як выбраць з цікавага самае цікавае.

Але я ж ішоў таксама і напісаць матэрыял з участка, а не толькі дзеля Тапузідзіса. Што тычыцца гэтага, то ў 20 гадзінаў (час закрыцця ўчастка і пачатак падліку галасоў. — *Аўт.*) уся адкрытасць майго суразмоўцы вычарпалася. Ён рассадзіў усіх назіральнікаў і журналістаў на належныя ім месцы, дзе не бачна было абсалютна нічога. Я дастаў фотаапарат, і ён выказаў відавочную незадаволенасць тым, што я здымаю. Нягледзячы на тое, што ў метадычках Цэнтрвыбаркама выразна пазначана, што журналісты маюць права здымаць што заўгодна, ён казаў, што тут, на гэтым участку, ён забараняе здымаць — і тут ён кіруе.

Я не пайшоў на канфлікт, тым больш, што сам Тапузідзіс не ўзяў у рукі ніводнага бюлетэня, нават не наблізіўся да стала з бюлетэнямі. Калі праз некаторы час будзе крымінальная справа да фальсіфікатараў вынікаў выбараў, то ў яго — абсалютнае алібі. Усё, што ён зрабіў, — падпісаўся пад тым, што выканалі іншыя, то бок — у пратаколе выбарчай камісіі.

Такім чынам, той здымак, за якім я ішоў на ўчастак, у кожным разе не атрымаўся б.

*— Звычай людзі такога рангу патрабуюць, каб ім даслалі тэкст на вычытку, на зацверджанне і яшчэ бог ведае на што. З Тапузідзісам такога не было?*

— Абсалютна не. Тым больш што на тым этапе ні я, ні ён не разумелі, што з гэтага ў выніку атрымаецца, у якой форме. Атрымалася ўсё ж не зусім інтэрв'ю, не тое, што я прыйшоў да яго ў кабінет і задаваў пытанні. Гэта, хутчэй, апісанне, гутарка.

*— Вы кажаце, што ўвесь час назіраеце за складам камісій. Падзяліцеся: ці зможаце падарыць чытачам аналагічны матэрыял на парламенцкіх выбарах?*

— Не думаю. Нават цяпер, на прэзідэнцкіх выбарах, кіраўнікамі камісій з вядомых асобаў былі Ярмоленка і наш любімы бізнесмен. Ярмоленка не вельмі цікавы, канешне.

На выбарах парламенцкіх наўрад ці ў камісіі запросяць «зорак».

Але ёсць іншыя тэмы для матэрыялаў. Напрыклад, цікавы ўчастак, які знаходзіцца ў Драздах, — там у часе датэрміновага галасавання можна сустрэць абсалютна ўсіх міністраў, якія на ўчастку знаходзяцца ў публічным месцы і адмовіць у гутарцы тэарэтычна не могуць. Альбо, напрыклад, такі цікавы ўчастак, які месціцца ў інтэрнаце КДБ. У іншы час гэты інтэрнат з'яўляецца закрытым аб'ектам, і адкрываецца ён толькі адзін раз — на выбары. Там, думаю, шмат цікавага можна пабачыць.

Але гэта вельмі цяжкая праца: дзеля аднаго інтэрв'ю альбо адказаў на пару пытанняў журналіст павінен праседзець на ўчастку ўвесь тыдзень, чакаючы патрэбную асобу. І невядома яшчэ, ці прыйдзе яна, можа, прагаласавала «на даму».

І немагчыма прадказаць, ці атрымае плён гэтая «чарнавая» праца. Напрыклад, я спрабаваў напісаць матэрыял пра цікавых асобаў у камандзе Лукашэнкі. Дзеля гэтага я перачытваў спіс усіх дзесяці тысячаў членаў ягонай ініцыятыўнай групы. Але цікавых можна было пералічыць на пальцах адной рукі. У астатнім там спрэс настаўнікі альбо супрацоўнікі ўпраўленняў культуры. Адзінкі — адметнасці.

*— То бок, каб вылавіць аднаго цікавага Тапузідзіса, вам давялося перачытаць шмат дзясяткаў тысячаў прозвішчаў сябраў участковых камісій і яшчэ ініцыятыўнай групы Лукашэнкі да таго ж?*

— Менавіта так.

## Самы сумленны аддзел продажаў

Выключна выдатна на выбарах спрацавалі журналісты «Еўрарадыё». Яны здзейснілі тое, што не здолела зрабіць цэлая апазіцыйная «грамадская камісія», — праверылі на сапраўднасць подпісы кандыдатаў у прэзідэнты. І атрымалі абвінавачанні, што «прадаліся» Таццяне Караткевіч. А потым Зміцер Лукашук «забіў гол», знайшоўшы ці не адзіны ўчастак у краіне, дзе галасы лічыліся сумленна і празрыста. У нашай сістэме выбараў гэта сапраўды сенсацыя.

*— Зміцер, дзе ты адкапаў гэты выбарчы ўчастак?*

— Па шчырасці, гэта было нават крыху выпадкова, бо я заўважыў у інфармацыі штаба Караткевіч, што ў іх ёсць адзін участак, дзе за яе прагаласавалі ледзьве не 40 % выбаршчыкаў. Пачаў высвятляць, што гэта за ўчастак, дзе. Аказалася, у Вілейцы. Канешне ж, там участак не адзін, і трэба было паспрабаваць знайсці менавіта той, які патрэбны. У мяне ў Вілейцы ёсць знаёмы з даўніх часоў, актывіст АГП Уладзімір Малярчук. Я ведаю, што ён заўсёды ўдзельнічае ў выбарах — альбо назіральнікам, альбо кандыдатам, альбо імкнецца стаць сябрам камісіі. Вырашыў да яго звярнуцца і паспрабаваць даведацца праз яго: чуў ён што-небудзь такое, што гэта за ўчастак. І — пашчасціла: акурат Малярчук быў назіральнікам на гэтым жа ўчастку, дзе быў самы высокі працэнт галасоў за Караткевіч.

Малярчук вельмі добра адгукнуўся аб старшыні выбарчай камісіі. Расказаў, што чалавек ён новы,

старшынёю быў упершыню, адразу прыйшоў і абвесціў, што будзем працаваць сумленна і празрыста. З гэтага ўсё і пайшло. Я паразмаўляў з Малярчуком, пагаварыў са старшынёй камісіі Васілём Барысевічам. Так што, з аднаго боку — выпадкова заўважыў лічбы, з іншага — дапамаглі даўнія знаёмствы і база, ведаеш, да каго звярнуцца, каб спраўдзіць інфармацыю.

*— А як паставіўся да вас старшыня камісіі? Ён адкрыта з вамі размаўляў? Не было такога, што «па тэлефоне не бачна, што вы журналіст і адкуль»?*

— Васіль Барысевіч — дырэктар гімназіі, яго мабільнага тэлефона ў мяне не было. Дакладней, той, што мне далі, аказаўся няслушным. Давялося тэлефанаваць у гімназію, дзе мне нумар ягоны далі не адразу, сказалі, што трэба з ім параіцца, і папрасілі перазваніць праз пэўны час. Пазней мне паведамілі, што ён не супраць са мной пагаварыць, далі нумар мабільнага, і я з ім пагутарыў.

Чалавек абсалютна нармальна адказваў на ўсе пытанні, якія я задаваў. Не ўсё, канешне, увайшло ў матэрыял, недзе я яго нават і спрабаваў справакаваць, маўляў, можа, не па ўсёй краіне так сумленна лічаць галасы, як у іх. Але і гэтыя пытанні яго не палохалі, мы нармальна з ім пагаварылі.

Бываюць, вядома, часам пытанні да нас: якія вы СМІ — дзяржаўныя, недзяржаўныя, зарэгістраваныя ці не? Але ён такіх пытанняў не задаваў.

*— Ці не цікавіліся вы гэтым чалавекам далей? Ці не было ў яго праблемаў з той прычыны, што ён, па-першае, сумленна палічыў галасы, а па-другое, расказаў пра гэта «Еўрарадыё»?*

— Адмыслова я гэтым не цікавіўся, але, ведаючы Малярчука, калі б з Барысевічам нешта здарылася… Вілейка — горад невялікі, калі былі б праблемы, пра гэта б ужо ўсе ведалі, а Малярчук бы тэлефанаваў мне з патрабаваннем учыняць з гэтай нагоды скандал.

*— Усе кажуць — і не толькі журналісты, — што кампанія была сумнай. Як працаваць журналісту, асабліва радыёжурналісту, ва ўмовах сумнай кампаніі?*

— Я скажу так, што ў прынцыпе выбары ў Беларусі — гэта ўжо, на жаль, не першы год кампанія нецікавая. Усе ведалі, што асаблівых цікавостак не будзе. Нават калі браць задумкі нейкіх кандыдатаў, іх ініцыятыўных груп. Не хочацца банальшчыны, кшталту — вось там правялі чарговы пікет, хай ён быў і з нейкімі асаблівасцямі. Калі арганізатары нават унеслі нейкую цікавостку, гэта ўсё адно з пункту гледжання чытача — не навіна, нецікава.

Падчас кожных выбараў трэба самім прыдумляць нейкія тэмы, павароты, каб прыцягнуць увагу чытача, каб — не будзем казаць «зрабіць цікавымі выбары», а каб зрабіць цікавы матэрыял для сваіх чытачоў і слухачоў. І таму мы кожны дзень збіраліся на планёрцы і рабілі такі «мазгавы штурм», каб выдумаць нетрадыцыйныя тэмы, павярнуць да цікавосткі тую ці іншую падзею, правесці нейкія расследаванні з друкаванымі матэрыяламі. Самі прыдумлялі, куды можна пайсці, як справакаваць удзельнікаў выбарчай кампаніі на шчырасць…

Выбары самі па сабе — не вельмі цікавы факт. Каб нешта з іх выкруціць, трэба папрацаваць.

*— Дарэчы, наконт прыдумак. Пасля праверкі «Еўрарадыё» подпісаў Караткевіч на сапраўднасць усе сталі пытацца, колькі вам плаціць Дзмітрыеў. Не вам адным адрасаваліся такія абвінавачанні, але як вы да гэтага ставіцеся?*



— Ужо не першы раз нас абвінавачваюць у тым, што мы прадаліся. Упершыню з падобным мы сутыкнуліся ў 2010 годзе, калі нас пачалі абвінавачваць у тым, што мы працуем на Някляева. Хаця кожнаму журналісту зразумела, што трэба пісаць пра падзеі, пра таго, хто дае інфармацыйныя нагоды, крэатыў. Тады даваў Някляеў — пра яго пісалі больш.

У гэтым годзе мы з Алесем Пілецкім — мы ўдвух у асноўным займаліся выбарамі — на нашым кабінеце адразу павесілі шыльдачку: «Аддзел продажаў». Навошта нам апраўдвацца і нешта даказваць — прадаліся мы ці не прадаліся? У нас аддзел такі, аддзел продажаў. І ўсё гэтым сказана.

*Зміцер кажа пра свой матэрыял: «Пашанцавала». Але трэба было ўважліва паставіцца да паведамлення штаба Караткевіч, а журналісты такія звесткі праглядаюць «па дыяганалі». Трэба было заўважыць цікавую дэталь. Праверыць факт. Знайсці чалавека, адшукаць участак, датэлефанавацца да яго, не апускаючы рукі ў час няўдачы (няслушны нумар тэлефона)… Дык гэта «пашчасціла» — альбо аддамо належнае ўважлівасці, упартасці, настойлівасці Лукашука?*

## Лукашэнка і сексізм

Аляксандра Дынько выбарчы дзень правяла ў штабе Таццяны Караткевіч. Яе матэрыялы адтуль былі даволі стрыманыя, хоць, напэўна, у штабе хапала эмоцый. Тым не менш Аляксандра «забіла гол», аператыўна падаўшы рэакцыю першай жанчыны — кандыдаткі ў прэзідэнты Беларусі на выказванні Аляксандра Лукашэнкі. Так мы больш даведаліся і пра мужа Караткевіч, і пра сексізм кіраўніка дзяржавы.

*— Вы адмыслова пайшлі на офіс Караткевіч?*

— Гэта было даўно запланаванае мною мерапрыемства. Месяцы за паўтара я ведала, што дзень выбараў правяду менавіта так. Можа, гэта было звязана з тым, што сама кампанія была крыху сумнаватая, і чакаць нейкіх выключных падзеяў не выпадала, а правесці дзень з кандыдаткай у прэзідэнты было важна.

Яна ў палітыцы чалавек новы. Таму мне было цікава ў кожны момант з ёю знаходзіцца, даведвацца пра нешта новае. Але я зазначу, што з такім жа задавальненнем я б правяла дзень з любым іншым кандыдатам. Толькі, на дзіва, ніхто не хацеў мяне бачыць! Я прасіла — яшчэ да таго, каб дамаўляцца пра дзень выбараў, — правесці пару дзён у паездках з Сяргеем Гайдукевічам і Мікалаем Улаховічам. Абодва адмовіліся. Улаховіч за два месяцы да дня выбараў сказаў, што ён вельмі стаміўся, у яго мала грошай (вось гэтага я не зразумела) і я яму буду абузай. А Гайдукевіч шчыра прызнаўся, што разумее: ён «не наш герой». То бок ягоныя выбарцы — не аўдыторыя Радыё «Свабода». Таксама сказаў, што я стануся яму нагрузкай і нават буду яму перашкаджаць.

Я потым яшчэ пару разоў спрабавала дамовіцца на тое, каб паглядзець іх у працы, але таксама не атрымалася. Таццяна ў гэтым сэнсе аказалася больш даступнай.

І што мяне яшчэ здзівіла — у дзень выбараў побач з ёю было шмат замежных журналістаў: украінцаў, палякаў, расійцаў. Яны прыходзілі да яе ці часова яе суправаджалі. Але з беларускіх журналістаў я амаль нікога не бачыла, хіба што журналіста «Салідарнасці».

*— Што мяне персанальна здзівіла ў вашых матэрыялах… Зазвычай, калі журналіст працуе ў штабе палітыка, ён, канешне, цесна кантактуе з ім і ягонай камандай. Каманда яму стварае ўмовы для працы, прыносіць яму каву і печыва… І ў журналіста паступова ўзнікае сімпатыя да людзей, з якімі ён так цесна стасуецца. Вашыя ж матэрыялы былі чыста рэпарцёрскімі і выключна бесстароннімі. Цяжка было дасягнуць аб'ектыўнасці ў такіх умовах?*

— Гэта сапраўды, відаць, адзін з самых цяжкіх момантаў працы журналіста ў такой невялічкай краіне, як наша, дзе ўсе ведаюць усіх. Героі тваіх матэрыялаў заўсёды недзе побач: ты можаш сустрэць іх у горадзе, у кавярні, на выставах. Канешне, могуць сфармавацца і асабістыя дачыненні, і яны, безумоўна, узнікаюць. У мяне ёсць такі прынцып: я стараюся ні з кім не сябраваць. Калісьці я паставіла сабе такую ўмову: калі я хачу быць журналістам, калі я хачу, каб мае матэрыялы выклікалі давер у чытачоў, але ў першую чаргу ў мяне, — я мушу сама быць перакананая ў тым, што я аб'ектыўная, і ніякія асабістыя пачуцці мне не перашкаджаюць. Каб гэтых асабістых пачуццяў было менш, я стараюся ні з кім не сябраваць з тых, пра каго я пішу.

Можна параіць менш есці. (Смяецца.) Вось гэты момант, калі напрыканцы дня ў офісе «Гавары праўду» сабралася каманда Караткевіч — сябры ініцыятыўнай групы, удзельнікі агітацыйных пікетаў, назіральнікі — я бачыла на свае вочы, што людзі працавалі вельмі цяжка. Гэтыя людзі сабраліся ў офісе адзначыць не перамогу, у тым сэнсе, у якім гэта чамусьці было ўспрынята шматлікімі каментатарамі і інтэрпрэтатарамі. Проста яны адзначалі, што былі разам — і пэўны этап іхняй працы скончыўся. Тут было цяжка заставацца ўбаку і фіксаваць гэта, як старонні чалавек, бо ўсіх перапаўнялі эмоцыі. Але да такога кшталту святкаванняў лепш не далучацца.

*— Чытач заўсёды шукае нечага скандальнага, «смажанага». Таццяна ў гэтым сэнсе чалавек стрыманы на выказванні. Ці цяжка было яе «разгаварыць», да прыкладу, выцягнуць з яе фразу пра сексізм Лукашэнкі?*

— Таццяна насамрэч надзвычай адкрыты чалавек. Я вельмі цаню тую інфармацыю, якую я здабываю сама, для мяне важныя прысутнасць на месцы, асабістая размова з чалавекам. Мне важна бачыць, як ён рэагуе на тыя ці іншыя пытанні, нават калі тое, што ён кажа, выглядае абсалютна фармальна. Калі ты бачыш гэта напісаным тэкстам, з гэтага ўжо цяжка зрабіць нейкія высновы.

Дарэчы, для прамоваў Таццяны гэта вельмі характэрна. Яна асцярожная ў сваіх выказваннях. Таму мне вельмі важна было назіраць, як яна камунікуе з людзьмі, як яна сябе паводзіць. Усцяж да таго, якія ў яе манеры, як яна апранаецца… Камунікуючы з ёю, назіраючы за ёю (бо да гэтага я ездзіла з ёю па рэгіёнах), я для сябе і, спадзяюся, для сваёй аўдыторыі разбурыла стэрэатыпы пра яе, якія існавалі. Напрыклад, пра тое, што яна не ўмее размаўляць з людзьмі. Яна ўмее размаўляць з людзьмі, яна ўмее «трымаць» аўдыторыю, яна можа «трымаць» вялікія групы людзей доўгі час, адказваць на пытанні.



Другі стэрэатып, які быў у прэсе, — што яна сама ўвогуле не можа нічога сказаць, ёй усё падказваюць сябры яе каманды. Гэта таксама няпраўда. Калі я прысутнічала ў штабе, то бачыла, што паміж сябрамі каманды абсалютна роўныя стасункі. Не было такога, што хтосьці кімсьці камандуе, і Таццяна таксама абсалютна свабодная ў сваіх выказваннях. Калі ёй тэлефанавалі, яна сама адказвала на пытанні, і не было такога, што ў яе пытаюцца, а яна раіцца з некім: «Вой, мне задалі пытанне, як на гэта рэагаваць?»

Што да выказвання Аляксандра Лукашэнкі пра «чалавека ў спадніцы», — маўляў, сумнеўна, што жанчына можа кіраваць дзяржавай, — то Таццяна адказала на гэты пасаж абсалютна самастойна, і гэта была першая ейная рэакцыя.

Ужо потым я далей распытвала пра ейнага мужа, бо я ўпершыню яго пабачыла на выбарчым участку. Ягоная асоба як першага ў гісторыі Беларусі магчымага мужа прэзідэнта, «першага джэнтльмена», для мяне была вельмі цікавая.

Складанасць у размове з Таццянай была ў тым, што яна асцярожны ў выказваннях чалавек. Мне падалося, што яна вельмі баіцца зрабіць памылку, — і таму яе выказванні падаюцца фармальнымі альбо папулісцкімі. І так бывае ў трох чвэрцях яе выказванняў. Я думаю, гэта не ўнікальная мая заўвага, гэта ёсць. Можа, гэта характэрна для палітыка-пачаткоўца. Я тлумачу для сябе гэта тым, што ў Таццяны няма досведу — найперш палітычнага. Бо задача палітыка — гэта ўмець пераканаўча выказваць свае меркаванні, сваё бачанне свету ў даступных для людзей словах. У Таццяны мала досведу, і таму гэтыя словы былі абмежаванымі.

*— Аўдыторыя Радыё «Свабода», зразумела, больш палітычна ангажаваная, нават больш радыкальная за аўдыторыі шмат якіх СМІ. Ці былі ў вас выпадкі, што ў каментарах да вашых артыкулаў чытачы пыталіся, колькі вам плаціць Дзмітрыеў альбо як даўно вы абслугоўваеце штаб Караткевіч, ці працуеце ў «Гавары праўду»? Вас такія каментары не збянтэжвалі?*

— Шчыра прызнаюся, што такіх выказванняў я не чула, можа, таму, што гэта быў настолькі напружаны перыяд працы, што ў мяне не было часу чытаць каментары. Але, паколькі я адсочвала рэакцыю на кампанію Таццяны ў сацыяльных сетках, то дапускаю, што і такія каментары да маіх матэрыялаў цалкам маглі з'явіцца.

Я думаю, што на гэта ніяк не трэба рэагаваць. Трэба проста рабіць сваю справу. Адно, што вы казалі пра збалансаванасць… Мне вельмі нехапала доступу да іншых кандыдатаў. Я сапраўды хацела, каб і Сяргей Гайдукевіч, і Мікалай Улаховіч былі б настолькі адкрытыя са мною, як Таццяна. Гэта б магло зняць такога кшталту каментары, але не адбылося найперш «адкрытасці». І, зразумела, у людзей ёсць падставы сумнявацца, калі ты пішаш толькі пра аднаго кандыдата.

*— І вы, і ўсе кажуць, што гэтая прэзідэнцкая кампанія была надзвычай нецікавая. На вашую думку, наколькі ў гэтай «нецікавасці» правіна альбо дасягненне саміх кандыдатаў, якія не ішлі на кантакт з журналістамі?*

— Я думаю, што яны не былі закрытыя для іншых СМІ. Мяркую, што ў іх была перасцярога менавіта перад Радыё «Свабода». Бо яны кантактавалі і з «Камсамольскай праўдай» і з TUT.BY. Абодва мужчыны-палітыкі, што заявілі пра канкурэнцыю з Лукашэнкам, хутчэй, не ўспрымаюць прыхільнікаў Радыё «Свабода» як сваю аўдыторыю. І яны вырашылі проста не марнаваць на нас час.

Кампанія была нецікавай, хутчэй, таму, што ніхто з удзельнікаў гэтай кампаніі не ўспрымаў яе сур'ёзна ў дачыненні да галоўнага выніку. Ніхто не думаў, што ён стане прэзідэнтам, акрамя, зразумела, аднаго кандыдата. У Гайдукевіча і Улаховіча былі зусім сціплыя мэты прысутнасці. У Караткевіч была мэта адпрацаваць методыкі і паспрабаваць сябе як палітыка, яна гэтай мэты паслядоўна дасягала. Таму яны ашчаджалі свае намаганні ў кампаніі. І, адпаведна, не прапаноўвалі нічога цікавага.

***

*Дык колькі ў цікавых матэрыялах працэнту «выпадковасці» і «журналісцкага шчасця»? Па ўсіх гэтых гісторыях мы бачым, што «выпадковасць» і «шчасце» — гэта не журналісцкія азначэнні, іх адсотак у добрым матэрыяле блізкі да нуля.*

*І яшчэ: малаверагодна зрабіць дыхтоўны матэрыял, не прыклаўшы намаганняў, седзячы на месцы.*




*Валерый КАРБАЛЕВІЧ*

# Беларусь пасля выбараў

**Прэзідэнцкія выбары нават у іх спецыфічным беларускім варыянце стваралі сітуацыю нейкай нявызначанасці. З прычыны чаго многія палітычныя рашэнні адкладаліся. Пасля заканчэння выбарчай кампаніі прыйшоў час расстаўляць кропкі над «і».**

Палітычны працэс вяртаецца ў свой натуральны стан.

Сацыяльна-эканамічная сфера непазбежна прадэманструе рост цэнаў — на час выбарчай кампаніі ўрад штучна іх стрымліваў. Варта чакаць павышэння камунальных тарыфаў, росту коштаў на грамадскі транспарт. Між іншым, гэтага патрабуюць і замежныя крэдыторы: МВФ і кантраляваны Расіяй Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця.

Вядома, што 1 студзеня 2016 г. заканчваецца адтэрміноўка на наяўнасць сертыфікату якасці прадукцыі, дадзеная ўрадам індывідуальным прадпрымальнікам. Пасля Новага года ім загадана гандляваць толькі з сертыфікатам. У большасці прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынку, патрэбнай паперчыны няма. Таму можна чакаць, што некалькі дзясяткаў тысяч ІП знікнуць, застануцца без працы. А на таварах астатніх з'явіцца новы, больш высокі цэннік.



Фота В. Драчова

## Чаму немагчымыя структурныя рынкавыя рэформы?

Апошнім часам вядзецца шмат размоў пра эканамічныя рэформы. Пра гэта даўно цвердзіць апазіцыя, гэта згадвалі кандыдаты ў прэзідэнты. Больш за тое, пра рэформы загаварылі ва ўладных структурах. Урад для перамоваў з МВФ падрыхтаваў праграму эканамічных пераўтварэнняў. Старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч заявіў: «Калі не праводзіць рэформаў, а фарсіраваць інтэграцыйныя працэсы на базе таго, што ёсць, то вынікі могуць аказацца нават адмоўнымі». Памочнік прэзідэнта па эканамічных пытаннях Руды канстатаваў: «Структурныя эканамічныя рэформы азначаюць змену эканамічнай стратэгіі. Але гэта немагчыма без змены ручнога кіравання, якое прытупляе неабходнасць рэформаў».

Інакш кажучы, ідэя рэформаў носіцца ў паветры. Склаўся ўнікальны кансенсус элітаў і контрэлітаў па пытанні неабходнасці структурных пераўтварэнняў у краіне.

Чаму ж рэформы не ідуць, хто супраць? А супраць, аказваецца, адзін чалавек, ад якога ўсё і залежыць, — Аляксандр Лукашэнка. На апошніх нарадах, нават выступаючы перад вайскоўцамі, зноўку абраны прэзідэнт даволі катэгарычна выступіў супраць эканамічных рэформ.

Лукашэнка разумее, што цяперашняя беларуская сацыяльная мадэль з'яўляецца аптымальнай для ўтрымання ўлады. А рэформы гэтую мадэль пагражаюць разбурыць, ствараюць непатрэбныя рызыкі і пагрозы для непадзельнага панавання.

Створанае ў нас — мадэль патэрналісцкай дзяржавы, у межах якой каля 70 % валавога прадукту выпрацоўваецца на дзяржпрадпрыемствах. Ёсць бюджэтнікі, пенсіянеры. У выніку пераважная большасць дарослага насельніцтва залежыць ад дзяржавы. А дзяржава ў Беларусі атаясамліваецца з Лукашэнкам. Шмат людзей шчыра верыць, што заробкі і пенсіі ім плаціць менавіта прэзідэнт. Таму за яго і галасуюць.

Гэтая мадэль тармозіць і пенсійную рэформу. Бо са з'яўленнем прыватных пенсійных фондаў пенсіянеры будуць атрымліваць зарплату не ад дзяржавы.

Да таго ж Лукашэнка ўсвядоміў «сіндром Гарбачова». Лёс першага прэзідэнта СССР, які пачаў трансфармацыю савецкай сістэмы з мэтай яе ўмацавання, а атрымаў на фінішы супрацьлеглы вынік, стаў для Лукашэнкі паказальным урокам. Тое ж адбылося з Барысам Ельцыным, які ў выніку рэформаў катастрафічна страціў давер расейскага грамадства. І беларускі лідар баіцца апынуцца ў такой ролі.

Безумоўна, рынкавыя рэформы патрабуюць пашырэння эканамічнай свабоды. А гэта павялічвае грамадскія зоны, непадкантрольныя дзяржаве, і можа пацягнуць за сабой патрабаванні палітычных змен. Можа пачацца ланцуговая рэакцыя, якую Лукашэнка кантраляваць не зможа.

Яшчэ: досвед рынкавых рэформ у Расіі і Украіне паказаў, што іх вынікам становіцца з'яўленне алігархаў, то бок багатых людзей, якія пачынаюць уплываць на палітыку, ствараюць свае партыі, фракцыі ў парламенце, медыі ды інш. А Лукашэнка 21 год вытоптвае палітычнае поле, каб там не ўзніклі нават маленькія парасткі канкурэнцыі. І што — уласнымі рукамі ствараць сабе апанентаў?

Калі Лукашэнка пачне рэформы, то ён прызнае палітычную праваты апазіцыі. І ўзнікне лагічнае пытанне: чаму ты 21 год вёў краіну не ў той бок?

Між іншым, рынкавыя рэформы запатрабуюць ад Лукашэнкі змены вобраза. Давядзецца памяняць ідэйную парадыгму, змяніць лозунг парадку і стабільнасці на ідэю развіцця, імідж рэстаўратара і захавальніка старой сістэмы на вобраз мадэрнізатара. А гэта — як аперацыя па змене пола чалавека.

Наогул, яму давядзецца памяняць электарат. Дасюль галоўнай і надзейнай сацыяльнай апорай Лукашэнкі былі сацыяльныя аўтсайдэры, то бок людзі, не здольныя ўпісацца ў рынкавую эканоміку. Гэта пенсіянеры, сельскае насельніцтва, рабочыя дзяржпрадпрыемстваў. А ў выпадку рэформаў трэба будзе зрабіць сваёй сацыяльнай апорай сярэдні клас, моладзь. І не факт, што гэтыя новыя слаі прызнаюць Лукашэнку сваім, павераць яму. У выніку можа атрымацца, што ён страціць стары электарат і не набудзе новы. Так часта здараецца з рэфарматарамі.

І, нарэшце, апошняе. Вы можаце ўявіць Лукашэнку без ручнога кіравання эканомікай? Без бясконцых паседжанняў з міністрамі і дырэктарамі, з крыкам і разносамі, без селектарных нарадаў падчас уборачнай і пасяўной, без рэгулярных паездак па заводах і палях, каб, як кажуць у Паўночнай Карэі, «ажыццяўляць кіраванне на месцы»? І ўвогуле, што ж гэта за прэзідэнт, які не звальняе пад настрой дырэктара завода? Пры такім варыянце гэта ўжо будзе не Лукашэнка, а, прабачце, нейкі Абама.

Таму кіраўнік дзяржавы гатовы толькі да касметычных зменаў сістэмы, якія ён назваў «удасканаленнем».

Становіцца відавочным, што задача развіцця краіны і задача ўтрымання ўлады Лукашэнкам не толькі не супадаюць, а ўсё больш разыходзяцца ў розныя бакі, становяцца супрацьлеглымі, узаемавыключнымі і нават антаганістычнымі. Ніколі раней не была такой прыкметнай палітычная адзінота Аляксандра Лукашэнкі. Хоць ён — быццам бы — толькі што атрымаў 83,5 % галасоў выбарцаў.

## Узаемадачыненні з Захадам

Як і чакалася, ЕС прыпыніў свае санкцыі ў дачыненні да беларускага кіраўніцтва. Часткова гэта зрабілі і ЗША. Фармальна такое рашэнне стала рэакцыяй Захаду на вызваленне палітвязняў. Але рэальная прычына адмены санкцый ляжыць у сферы геапалітыкі. Украінскі крызіс, канфлікт Расіі з Захадам прымусілі Брусель і Вашынгтон многія рэчы, у тым ліку стаўленне да Беларусі, ацэньваць па-іншаму. Геапалітыка, падаецца, пасунула з прынцыпова галоўнага месца дэмакратычныя каштоўнасці. У выніку гэтых фактараў працэс нармалізацыі стасункаў паміж Беларуссю і Захадам працягваецца і нават паскараецца.

Але не трэба перабольшваць гэты трэнд. Пакуль санкцыі не знятыя, а толькі прыпыненыя. ЕС увёў мараторый на іх выкарыстанне на чатыры месяцы, ЗША — на паўгода. Захад траўмаваны няўдачай папярэдняй спробы размарозіць зносіны з афіцыйным Мінскам. Тая спроба скончылася 19 снежня 2010 года брутальным разгромам апазіцыі. Акрамя таго, ЕС і ЗША цудоўна разумеюць велізарную залежнасць Беларусі ад Расіі, што накладае жорсткія абмежаванні на палітыку балансавання Мінска паміж Усходам і Захадам.

Таму цяпер Брусель і Вашынгтон будуць вельмі асцярожныя ў сваёй палітыцы нармалізацыі ўзаемадачыненняў з Беларуссю. Але, відаць, галоўнае, што зараз хвалюе афіцыйны Мінск у зносінах з Захадам, — гэта крэдыт МВФ.

## Канфлікт вакол авіябазы

Тэма стварэння расійскай ваеннай авіябазы на тэрыторыі Беларусі стала сёння галоўнай у беларуска-расійскіх узаемадачыненнях. Справа ў тым, што кіраўніцтва Расіі выцягнула пытанне авіябазы з сферы кулуарных перамоваў у публічную плашчыню. Афіцыйна абвешчана, што ўрад РФ зацвердзіў пагадненне з Беларуссю аб стварэнні гэтага ваеннага аб'екта і перадаў дакумент на подпіс прэзідэнту.

Такім спосабам Масква вырашыла націснуць на Мінск у момант прэзідэнцкіх выбараў, калі, як яна лічыла, на Лукашэнку можна было асабліва ўпэўнена ўздзейнічаць. Для Крамля адмова ад гэтага распіяранага праекта будзе азначаць страту твара. Бо цяпер расійскае кіраўніцтва з усяе моцы спрабуе паказаць, што РФ вяртаецца на сусветную арэну як вялікая дзяржава. Маўляў, Еўропа напалоханая, ЗША збянтэжаныя, арабы ў страху. І, здавалася б, на гэтым фоне праціснуць ідэю авіябазы ў Беларусі — проста драбяза. Бо Беларусь — саюзнік, прычым слабы, моцна залежны ад Расіі. І ўжо калі такую краіну РФ уламаць не ў стане, то якая ж яна, да д'ябла, вялікая дзяржава?!

Але і для Беларусі пытанне пра авіябазу прынцыповае. Аляксандр Лукашэнка, як любы аўтарытарны кіраўнік, прызвычаены да абсалютнай улады над тэрыторыяй сваёй дзяржавы. А з'яўленне тут замежных войскаў, падпарадкаваных генералам суседняй краіны, разбурае ваенны суверэнітэт Беларусі. Да таго ж Лукашэнка добра памятае, што захоп Крыма пачаўся з тэрыторыі расійскай ваеннай базы.

Зразумела, што з'яўленне ў Беларусі расійскай авіябазы можа сапсаваць працэс нармалізацыі ўзаемадачыненняў Мінска з Захадам. Асабліва з улікам таго, што знешняя палітыка Расеі становіцца ўсё больш авантурнай. Пра такія асцярогі беларускія афіцыйныя асобы кажуць уголас. Лукашэнка, выступаючы перад ваенным кіраўніцтвам, заявіў наўпрост: «Як кіраўнік дзяржавы я не бачу сэнсу быць уцягнутым у гульню мускуламі нашых заходніх і ўсходніх суседзяў. Не час, і гэта не трэба».

Міністр замежных спраў Беларусі Макей пасля сумеснай калегіі МЗС Беларусі і Расіі заўважыў у інтэрв'ю газеце «Коммерсант»: «Авіябаза выклікае раздражненне ў адрас Мінска і Масквы». Аргумент вельмі паказальны — і для расійскай аўдыторыі крыху дзіўны. То бок беларускі міністр кажа расейцам, што з'яўленне тут авіябазы выклікае незадаволенасць Захаду. Але ж, згодна з задумамі расійскага ваенна-палітычнага кіраўніцтва, авіябаза акурат і павінна стаць стрэмкай для НАТА, Захаду, Еўропы. Аднак выходзіць: што для Расіі — плюс, для Беларусі — якраз мінус. Саюзнікі па-рознаму бачаць свае нацыянальныя інтарэсы ў рэгіёне.

Не выпадкова міністр замежных спраў РФ Сяргей Лаўроў па выніках сумеснай калегіі адзначыў на прэс-канферэнцыі, што непаразуменні ў двухбаковых зносінах «з'яўляюцца, дзякуючы нашым добразычліўцам "звонку"». У перакладзе з дыпламатычнай мовы на звычайную, расійскі міністр падазрае, што заходнія ворагі збілі з панталыку чыстых і беззаганных бліжэйшых саюзнікаў.

Калі б Лукашэнка збіраўся таргавацца з Расіяй па гэтым пытанні, каб атрымаць за базу вялікія дывідэнды, то тон яго выказванняў быў бы іншым. Ён бы сказаў, што, маўляў, ідуць перамовы, яшчэ нічога не зразумела, паглядзім, што Масква нам прапануе. Але пакуль заявы Лукашэнкі на гэты конт цалкам пэўныя: авіябаза нам не патрэбная. І ўжо калі Расія асцерагаецца пагрозы з Захаду, лічыць Аляксандр Лукашэнка, то хай яна дасць, танна прадасць ці прадставіць у арэнду Беларусі свае самалёты, на якіх будуць лётаць беларускія лётчыкі.



Фота В. Драчова




Пасля такіх заяў кіраўніку Беларусі складана будзе адступіць ад прамоўленага і даць згоду на размяшчэнне тут расійскай авіябазы. Бо ў такім выпадку ўсім будзе зразумела, што Масква Лукашэнку зламала або, як ён любіць казаць, «нахіліла». У выніку абодва бакі ўвайшлі ў клінч.

На саміце СНД у Казахстане 16 кастрычніка адбылася кароткая сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Расіі, падчас якой беларускі лідар прапанаваў вызначыцца і канчаткова прыняць рашэнні па пытаннях, якія наспелі, — або на пасяджэнні Вышэйшага дзяржсавета Саюзнай дзяржавы, або падчас яго візіту ў Маскву. Лукашэнка спяшаецца, ён разлічвае на атрыманне крэдыту ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця. Як заўсёды, тэрмінова патрэбна расейская фінансавая дапамога.

Можна меркаваць, што, у сваю чаргу, Масква цяпер падвесіць пытанне і паспрабуе ўзяць саюзніка на змор. Крэмль будзе цягнуць гуму, чакаць, калі «кліент саспее» і эканамічныя цяжкасці прымусяць Мінск ісці на саступкі. Такімі спосабамі ўмацоўваецца славянскае братэрства.

Два словы пра апазіцыю. Пасля выбараў яна застанецца расколатай, у стане канцэптуальнага крызісу. Адбылося ўзмацненне пазіцый кампаніі «Гавары праўду!». Паколькі Таццяна Караткевіч атрымала ў выніку ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі самы высокі рэйтынг сярод апазіцыйных палітыкаў, то Захад будзе паступова пераарыентоўвацца менавіта на яе падтрымку.

# Незалежныя СМІ: БЕЗ ПРАВА РАСПАЎСЮДУ

**Больш як 10 гадоў незалежныя сродкі масавай інфармацыі спрабуюць адстаяць сваё права на свабодны распаўсюд. На жаль, пакуль безвынікова. Хаця для таго, каб газета трапіла ў шапікі «Белсаюздруку» альбо ў падпісны каталог «Белпошты», не трэба змяняць заканадаўства, не патрэбны тут і дадатковыя фінансавыя выдаткі. Усе памкненні незалежных выданняў упіраюцца ў штучна створаны «беларускі» тупік.**



*Марына* **КОКТЫШ**



**Анатоль Букас:**
***«Не ведаю, выжывем мы да Новага года ці не...»***

*Штотыднёвік «Борисовские новости» немагчыма знайсці ў шапіках «Белсаюздруку» з 2006 года, тады ж газету адмовілася распаўсюджваць і «Белпошта». У чэрвені 2013 года выданне ўсё ж вярнулі ў падпісны каталог, але зусім ненадоўга.*

— Сёлета я накіроўваў два лісты ў «Белсаюздрук» і «Белпошту», — распавядае галоўны рэдактар выдання **Анатоль Букас**. — Адмовілі з фармулёўкай, што распаўсюджваць наша выданне «немэтазгодна». Я напісаў таксама ў Міністэрства гандлю — прасіў, каб далі магчымасць адкрываць гандлёвыя кропкі па продажы газеты ў крамах. Мяне адправілі ў Мінаблвыканкам. Паехаў на прыём да начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы аблвыканкама Руслана Трухана, а той сказаў: «Не!» Чыноўнікі лічаць, што ў газетных шапіках дастаткова дзяржаўных выданняў.

Варта адзначыць, што больш як два гады таму газету «Борисовские новости» ўключылі ў падпісны каталог, але пратрымалася яна там толькі тры месяцы. А выключылі насамрэч не таму, што мы быццам бы не паспелі падаць звесткі на новы падпісны сезон. Мы паспелі, аднак чыноўнікі спасылаліся на тое, што мы парушылі тэрмін. Я лічу, што гэта была адмова на фармальнай падставе.

Цяпер наклад «Борисовских новостей» — 5 000 экзэмпляраў, яшчэ 10 000 — рэкламны дадатак «БарЖоМі». Палову тыражу «БарЖоМі» мы ўкладаем у «Борисовские новости», астатняе развозім па магазінах, рынках, кіёсках і г. д. Рэклама сёння дае нам магчымасць існаваць.

Калі па шчырасці, надзеі на светлую будучыню ў мяне няма. Вельмі кепскія справы. Нават не ведаю, выжывем мы да Новага года альбо не...



**Уладзімір Скрабатун:**
***«Нас, відаць, уключылі ў нейкія “чорныя спісы”»***

*У падпісным каталогу газеты «Вольнае Глыбокае» няма. У 2013 годзе рэдакцыя звярталася з просьбай уключыць выданне ў падпісны каталог на 2-е паўгоддзе, але ў адказе, які прыйшоў з галоўнага офіса РУП «Белпошта», спасылаліся на «немэтазгоднасць». Выданне прадаецца ў газетных шапіках горада, але на рэалізацыю бяруць не больш за 40 асобнікаў.*

— Нас, відаць, уключылі ў нейкія «чорныя спісы», — гаворыць галоўны рэдактар «Вольнага Глыбокага» **Уладзімір Скрабатун**. — Наклад «Вольнага Глыбокага» — 2000 асобнікаў. У шапіках мы прадаёмся, але адразу была выстаўленая ўмова, што будуць браць на рэалізацыю не больш як 40 нумароў. Яшчэ на рынках прадаёмся, у прыватных крамах. Натуральна, не ўсе крамы хочуць распаўсюджваць незалежную газету, аднак ёсць нармальныя прадпрымальнікі, з якімі мы супрацоўнічаем не адзін год, і ніхто на іх не наязджае.

Цяпер увогуле вялікія праблемы з продажам газеты. Людзі збяднелі. Заробкі затрымліваюць, пенсіі мізэрныя, на вёсках жывуць з натуральнай гаспадаркі. І нават нашы сталыя чытачы вымушаны адмаўляцца ад газеты, бо проста не могуць аплаціць падпіску. Нумар газеты каштуе 5 тысяч рублёў, а некаторыя атрымліваюць усяго паўтара мільёна. Якія тут могуць быць думкі пра газету — толькі б выжыць!






**Віктар Валадашчук:**
***«Мусіць, яны адказы ўсім пад капірку пішуць...»***

*У падпісным каталогу і шапіках «Газеты Слонімскай» няма з 2006 года. Сёлета напрыканцы красавіка кіраўніцтва «Белпошты» зноў адмовілася ўключыць выданне ў падпісны каталог. Ад «Белсаюздруку» незалежная рэдакцыя таксама атрымала адмову.*

— Мы два разы на год звяртаемся да кіраўніцтва «Саюздруку» і «Белпошты», але адказы адны і тыя ж: «Немэтазгодна!» — гаворыць галоўны рэдактар «Газеты Слонімскай» **Віктар Валадашчук**. — Мусіць, яны іх усім пад капірку пішуць.

Мне падаецца, што нават нашыя мясцовыя крамы, дзе мы таксама хацелі б прадавацца, раяцца з чыноўнікамі, бо і яны адказваюць, што прадаваць газету ў краме немэтазгодна. Хаця, напрыклад, дзяржаўная газета там прадаецца, і бясплатная прыватная рэкламная газета «Мой раён» таксама распаўсюджваецца...

**Валер Булгакаў:**
***«Будзем рабіць стаўку на электроннае выданне»***

*Часопіс «ARCHE. Пачатак» уключаны ў падпісны каталог «Белпошты». У газетных шапіках не прадаецца. У 2014 годзе рэдакцыя часопіса звярнулася ў чарговы раз у «Белсаюздрук» з прапановай распаўсюджваць выданне ўраздроб, але атрымала адмову з матывіроўкай, што гэта немэтазгодна. Таксама без тлумачэння прычын прадаваць часопіс адмаўляецца і «Белкніга».*

— Сёлета мы нікуды не звярталіся, бо не бачым у гэтым сэнсу, — гаворыць галоўны рэдактар часопіса **Валер Булгакаў**. — Нам прыходзіць адзін і той жа адказ. Усё пачалося пасля таго, як мы

11 гадоў таму выдалі нумар, прысвечаны Лукашэнку. І тады нас выкінулі і з кіёскаў, і з кнігарні «Белкніга». Што тычыцца будучыні, то мы будзем рабіць стаўку на электроннае выданне. Але для гэтага патрабуюцца вялікія высілкі: і арганізацыйныя, і кадравыя, і рэсурсавыя. Самае галоўнае для нас — захаваць часопіс, бо такія выданні звычайна не разлічаны на масавага чытача…



**Уладзімір Янукевіч:**
***«Думаю, газета не згіне»***

*Газеты «Intex-press» няма ў падпісным каталогу і кіёсках з 2006 года. Рэдакцыя рэгулярна звяртаецца і да «Белпошты», і да «Белсаюздруку», але атрымлівае адмовы ў распаўсюдзе.*

— Апошні раз звярталіся, можа, месяц ці два таму, — гаворыць галоўны рэдактар «Intex-press» **Уладзімір Янукевіч**. — Распаўсюджваемся праз уласную падпіску і сетку распаўсюду, а таксама праз гандлёвыя кропкі.

Наклад у нас цяпер 12 452 асобнікі. Раней было больш. Калі прыпынілі наш распаўсюд, мы пайшлі да людзей. Уся рэдакцыя хадзіла па кватэрах! Гандлявалі газетай нават журналісты. Так нам удалося падтрымаць наклад. Раней тыраж у нас быў больш як 15 000 асобнікаў, а цяпер зменшыўся да 12 000.

Дарэчы, менавіта падчас такога наўпроставага гандлю мы заўважылі, што многія людзі перайшлі на безнаяўны разлік. І калі яны падыходзяць купіць газету, часта пытаюцца: «Картку возьмеце для аплаты?» У краме праблем няма: карткай можна разлічыцца і за хлеб, і за газету адначасова. Аднак знайсці наяўнымі ў кішэні 5 500 беларускіх рублёў, як паказала практыка, могуць не ўсе. Гэта выклікала пэўныя цяжкасці.

У суды спрабавалі звяртацца нашыя падпісчыкі. Але іх іскі нават разглядаць не сталі, бо «Саюздрук» і «Белпошта» даслалі даволі абгрунтаваныя тлумачэнні, што маюць права не заключаць такія дамовы. І ўсё на гэтым. Другі раз мы спрабавалі арганізаваць судовы працэс, калі нас пачалі выкідваць з шапікаў і гандлёвых кропак. Напрыклад, гіпермаркет «Карона» быў не супраць гандляваць нашай газетай. Мы заключылі дамову. Але другую адгрузку накладу яны ўжо не прынялі. Чытачы з гэтай нагоды напісалі свае заўвагі ў кнігу скаргаў: маўляў, хацелі б набываць газету ў вашай краме. Кіраўнікі гіпермаркета адказалі, што дамова з газетай ёсць, але выданне яны проста не замаўляюць для продажу. Гандлёвыя кропкі цяпер так складаюць свае дамовы, што яны павінны нам даслаць пісьмовы запыт на тое, каб мы даставілі ім чарговы нумар газеты. Не даслалі нам такую заяўку — значыць, мы не павінны ім нічога прывозіць.

Што тычыцца перспектыў, то бліжэйшым часам мы збіраемся крыху рэканструяваць рэдакцыю і змяніць форму працы. Зараз мы над гэтым вельмі сур'ёзна працуем. За мяжой штотыднёвікі робяцца вялікімі накладамі і распаўсюджваюцца бясплатна. Жывуць за кошт рэкламы. У нас ёсць рэклама, але за апошні год мы таксама пацярпелі даволі значныя страты, у параўнанні з мінулым годам кожны месяц губляем 60–70 мільёнаў. Не ведаю, як далей будзе развівацца беларускі бізнес. Змрочныя перспектывы вымалёўваюцца... Усе прадказваюць заняпад. І калі гэта спраўдзіцца, то, магчыма, прыпыняцца наша развіццё, рэформы, якія мы хацелі б бачыць у газеце. Але, я думаю, газета не згіне. Для сябе абумоўліваю час, што гады тры-чатыры з больш-менш прыстойным накладам газета дакладна будзе існаваць.



**Аксана Колб:**
***«Будзем звяртацца яшчэ!»***

*«Новага часу» няма ў падпісным каталогу і газетных кіёсках з 2006 года. Газета распаўсюджваецца ўласнымі намаганнямі: праз падпіску ў рэдакцыі, а таксама пры дапамозе грамадскіх распаўсюднікаў. 24 жніўня пасля шматгадовага перапынку рэдакцыя «Новага часу» вырашыла зноў звярнуцца да «Белсаюздруку» з просьбай пра заключэнне дамовы на распаўсюд газеты праз гандлёвую сетку гэтай дзяржаўнай установы. Але атрымалі адказ, што «па тэхнічных прычынах» гэта немагчыма.*

Праўда, кіраўніцтва РУП «Белсаюздрук» паабяцала вярнуцца да гэтага пытання напрыканцы года.

— 11 верасня я аднесла зварот наконт падпіскі і ў «Белпошту», — распавядае **Аксана Колб**, якая выконвае абавязкі галоўнага рэдактара «Новага часу». — Спачатку да мяне выйшла жанчына з аддзела падпіскі і вельмі падрабязна ўсё растлумачыла, праверыла дакументы, якія я прынесла. Сказала, колькі грошай і на які рахунак трэба пералічыць, каб уключылі ў каталог. Але праз 20 хвілін мне патэлефанавалі і сказалі, што яны памыліліся і што наогул не павінны былі даваць

паперы для афармлення, бо ў каталог можна было трапіць толькі да 4 верасня. І, маўляў, у дадатак да каталога яны даўно нікога не ўключаюць.

Аднак справа ў тым, што ёсць загад «Белпошты», у адным з пунктаў якога напісана: тыя, хто не паспеў падаць заяву ў вызначаныя тэрміны, уключаюцца ў дадатак да каталога. І калі я нагадала пра гэта намесніцы старшыні «Белпошты», то яна сказала, што ўжо даўно так не робяць... Але мы не страчваем надзеі і будзем звяртацца яшчэ і да «Белпошты», і ў «Белсаюздрук».



**Васіль Зданюк:**
***«Я быў упэўнены, што нас уключаць у падпісны каталог»***

*У шапіках штотыднёвік «СНплюс. Свободные новости плюс» прадаецца, а ў падпісным каталогу яго няма. У красавіку 2015 года «Белпошта» ў чарговы раз адмовілася ўключыць газету ў падпісны каталог з прычыны «немэтазгоднасці».*

— Некалькі месяцаў таму мы звярталіся з просьбай унесці нас у падпісны каталог на другое паўгоддзе, — гаворыць галоўны рэдактар штотыднёвіка «СНплюс. Свободные новости плюс» **Васіль Зданюк**. — Нам даслалі стандартны адказ аб тым, што права прымаць такія рашэнні даецца гаспадарчаму суб'екту, якім з'яўляецца «Белпошта», а яна не бачыць падстаў для ўключэння нас у падпісны каталог.

Шчыра кажучы, на першым этапе я быў упэўнены, што нас уключаць у каталог. Такі сезон у гэтым годзе, быццам бы адліга. Намеснік начальніка «Белпошты» нават дапамагла мне паперы скласці, але... Аказалася, што я быў занадта аптымістычна настроены...

Сваёй сеткі распаўсюду ў нас няма. Было шмат спробаў стварыць незалежную сістэму распаўсюду, яшчэ нябожчык Пётр Марцаў хацеў гэтым заняцца. Але не ўдалося. Гэта вельмі выдатковая і складаная штука.

Тыраж у нас каля 30 тысяч. Практычна ўсё разыходзіцца. Праверыць працэнт спісання мы ніколі не можам (такія правілы гульні), але ён невялікі і нас цалкам задавальняе.

У суд я не звяртаўся. Проста не хачу марнаваць на гэта час. Бо я ўжо ведаю механізм: пакуль вялікі начальнік не адменіць сваю забарону, ніхто нават не паварушыцца.

## Незалежная экспертыза



**Андрэй БАСТУНЕЦ:**
***«Адмена забароны на распаўсюд не патрабуе ніякіх выдаткаў»***

— Усе адказы — амаль як пад капірку, — каментуе амаль 10-гадовую перапіску рэдакцый незалежных выданняў з «Белпоштай» і «Белсаюздрукам» старшыня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» **Андрэй Бастунец**. — Маўляў, мы манапалісты, але паслуга па ўключэнні ў падпісны каталог не з'яўляецца манапольнай. Так яны гавораць з самых першых дзён. Яшчэ ў 2005–2006 гадах, калі былі спробы ініцыяваць судовыя працэсы, суды адмаўляліся прымаць да разгляду гэтыя справы, спасылаючыся на тое, што гэта проста спрэчка суб'ектаў гаспадарання.

Наклады газет, якім абмежавалі распаўсюд, — не самыя маленькія. Тая ж газета «Intex-press» — паспяховае выданне, якое было выгадна прадаваць і распаўсюджваць усім, яно прыносіла прыбытак. І калі суб'ект гаспадарання, і ўжо тым больш манапаліст, адмаўляецца ад прыбытку, то зразумела, што за гэтым нешта стаіць...

З аднаго боку, атрымліваецца амаль бязвыхадная сітуацыя. З іншага боку, гісторыя з «Народнай воляй» і «Нашай нівай» якраз паказвае, што гэта было палітычнае рашэнне. Калі ў канцы 2008 — пачатку 2009 гадоў гэтыя газеты вярнулі ў кіёскі і падпісны каталог, атрымалася, што ўлады забыліся пра самастойнасць суб'ектаў гаспадарання? Аказалася, што ўсё вырашаецца на ўзроўні Міністэрства інфармацыі і Адміністрацыі прэзідэнта.

Калі Захад вядзе перамовы з беларускімі ўладамі з нагоды змены сітуацыі — самы просты прыклад, які не патрабуе ніякіх выдаткаў — адмена забароны на распаўсюд незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Для гэтага не патрэбныя інвестыцыі, не трэба ўносіць змены ў заканадаўства. Наадварот, неабходна проста яго прытрымлівацца. Гэта самае нескладанае — адмяніць забарону.

# Сербія — Беларусь. Свабода слова

**У Сербіі пасля ліквідацыі рэжыму Мілошавіча на заканадаўчым узроўні была скасаваная сістэма дзяржаўных СМІ. Недасяжная пакуль што дэмакратычная мара беларускіх журналістаў.**

**Але расчаравалі мяне сербскія калегі: пры фармальнай свабодзе болей за 80 працэнтаў СМІ засталіся пад поўным кантролем уладаў. Праз іншыя механізмы, іншыя метады.**



*Аляксей КАРОЛЬ*

Зусім нядаўна мы развіталіся з нашым калегам, цудоўным чалавекам, галоўным рэдактарам газеты «Новы час» Аляксеем Сцяпанавічам КАРАЛЁМ. Ён мусіў згуртаваць выдатную, прафесійную каманду журналістаў, якія працягваюць рабіць пачатую ім справу — ствараць цікавае і змястоўнае выданне, што мае свой твар, сваю выбітную «новачасаўскую» канцэпцыю.

Кароль быў добрым аналітыкам, пісаў скрупулёзна, пераканаўча, чаго патрабаваў — з такой незабыўнай адкрытай усмешкай — і ад сваіх паплечнікаў-аднадумцаў. Таму яго матэрыялы не сталі менш актуальнымі сёння, таму, здаецца, зусім недарэчна ўжываць у дачыненні да Аляксея Сцяпанавіча слова «быў»...

Сітуацыю са СМІ ў часы Мілошавіча лёгка ўявіць, бо гэта наша сённяшняя рэальнасць. Мілошавіч жорстка кантраляваў цэнтральныя СМІ, за рэгіянальнымі дагляд быў слабейшы. І яшчэ адна цікавая рыска да партрэтаў, як іх ахрысцілі калісьці заходнія журналісты, «двух апошніх дыктатараў у Еўропе»: Мілошавіч дазваляў карыкатуры на сябе, у нас за такое — пад суд «за паклёп» ды «за абразу гонару і годнасці».

## Пад пераследам

Таталітарны стандарт палітыкі ў дачыненні да свабоды слова — поўная забарона, вынішчэнне пад нож незалежных СМІ. Да гэтага імкнуліся і рэжым Мілошавіча, і рэжым Лукашэнкі. Але абодва былі вымушаны адступіцца: не тое грамадства, не той час, не тая міжнародная сітуацыя, уплыў новых тэхналогій. Сваёй тактыкай яны абралі максімальна магчымае абмежаванне дзейнасці незалежных СМІ — па колькасці, тыражы, змесце, каналах распаўсюду. Узялі на ўзбраенне метады эканамічнага і палітычнага ціску.

Да пэўнага часу гэтая тактыка мела эфект у Сербіі і пакуль што спрацоўвае ў Беларусі. Мяняецца толькі набор метадаў і сродкаў. У Беларусі мы зараз назіраем змену асноўнага вектара пераследу — са сталіцы на рэгіёны, з прыцэльных удараў па знакавых фігурах на масавыя затрыманні журналістаў падчас акцый апазіцыі. Замест судовых працэсаў з пагрозай працяглага зняволення (як гэта было ў дачыненні да **Андрэя Пачобута**) — штрафы ці «суткі» ў ізалятарах часовага ўтрымання. Разлік уладаў пры гэтым просты: грамадскі рэзананс, асабліва міжнародны, меншы, а эфект застрашвання — той жа.

## На пераходзе

Паводле меркавання сербскіх калегаў, з якімі я сустракаўся ў Бялградзе, незалежным СМІ належыць значная роля ў агульнай перамозе над рэжымам Мілошавіча. Але менавіта партыі, якія абяцалі

поўную свабоду слова, па сутнасці адразу ж пасля падзення рэжыму сталі ствараць новую сістэму кантролю над СМІ.

«*Пасля Мілошавіча*, — распавяла **Наталля Братулевіч**, — *дзяржаўная сістэма медыя распалася на шэсць рэспублік былой Югаславіі. І галоўнай тэмай у СМІ стала прапаганда вайны. У Сербіі, хаця законы і змяніліся, але ў наўпроставым значэнні сапраўдных публічных СМІ — з крытыкай і аналізам, — здольных выконваць асветніцкую ролю для народа, у належным маштабе не ўзнікла. З другога боку, грамадства таксама не ведала, якім павінна быць незалежнае выданне. І да сённяшняга дня пашыранае меркаванне, што роля таго ці іншага СМІ — гэта работа на тую ці іншую палітычную партыю*».

Праблему Наталля бачыць у тым, каб растлумачыць людзям сапраўдную ролю традыцыйных і электронных СМІ ў грамадстве. «*Гэта*, — разважае яна, — *як пачатковая школа. Другі ўзровень — даследчая праца: каб кардынальна змяніць сітуацыю, трэба з дакладнасцю выявіць, якімі спосабамі і сродкамі ўлады дамагаюцца кантролю і маніпулявання свабодай слова*».

## Новая сістэма

Пра новую сістэму СМІ, што склалася ў Сербіі за 13 гадоў пасля падзення рэжыму Мілошавіча, мы размаўлялі з **Вукашынам Абрадавічам**, прэзідэнтам Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі (IJAS) і адначасова галоўным рэдактарам рэгіянальнай незалежнай газеты «Враньске навіны».

У Сербіі, як і ў нас, таксама два саюзы журналістаў. Але сербская асацыяцыя незалежных журналістаў стваралася не з нуля, як Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Мы гутарылі са спадаром Вукашынам у яго кабінеце, на паверсе, які цалкам належыць яго саюзу. Гэты паверх, патлумачыў ён, асацыяцыя атрымала па рашэнні суда, пасля таго, як яны выйшлі з агульнага саюза журналістаў. Па справядлівасці, на яго меркаванне, ім мусілі адысці палова маёмасці і палова агульнага будынку.

Справа ў тым, што ад XIX стагоддзя ў Сербіі існаваў адзін саюз журналістаў. Але ў 1994 годзе вялікая група менавіта незалежных журналістаў вырашыла аддзяліцца і аб'яднацца ў сваю асацыяцыю — па прычыне нязгоды з той палітыкай падтрымкі рэжыму, прапаганды ідэалогіі вайны, якую праводзіў стары саюз.

«*Мы думалі*, — з доляй горычы ўзгадвае мінулае спадар Абрадавіч, — *што свабода слова прыйдзе сама сабой. Нашай вялікай памылкай было, што мы тады не зразумелі галоўнае: барацьба за свабоду слова павінна пачынацца па новай у той жа момант, як сышоў дыктатар*». І, уздыхнуўшы, дадаў: «*Атрымалася ж, што партыі ва ўладзе мяняліся, але нязменным заставаўся механізм кантролю, што сфармаваўся ў тым ліку і іх высілкамі*».

Па сутнасці, механізм гэты не новы, у розных варыяцыях, розных памерах уласцівы многім краінам. Вось як у агульных рысах выглядае яго сербская мадыфікацыя.

## Механізм кантролю

Паводле закону, любы ахвотны можа без перашкод адкрыць новы СМІ. Да таго ж закон не патрабуе называць імя ўладальніка.

Здавалася б, ну проста супердэмакратычная норма. На справе ж яна аказалася гіганцкім падвохам, шчылінай для ўскоснага, але вельмі эфектыўнага кантролю за сродкамі інфармацыі. Найперш з боку дзяржавы і алігархаў — сапраўдных патаемных фінансістаў таго ці іншага выдання. Пры змене ўлады ўсе трансфармацыі зводзяцца да перадзелу сфер уплыву. Зноў жа пад коўдрай, праз інтрыгі і судовыя працэсы, пад прыкрыццём барацьбы з карупцыяй.

Па прычыне таемнасці схем уплыву на сродкі масавай інфармацыі ніхто з маіх суразмоўцаў не змог назваць дакладную лічбу як незалежных, так і залежных СМІ. Але перавага, на жаль, на баку



*Іван Цвеіч, галоўны рэдактар незалежнага агенцтва навін «Beta», і Наталля Братулевіч, менеджар арганізацыі «Абаронцы правоў чалавека»*



*Надзея Гачэ, галоўны рэдактар часопіса «Novi Magazin»*



*Вукашын Абрадавіч, прэзідэнт Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі*



*У Бялградзе з XIX стагоддзя захавалася вуліца рэстаранаў. Рэстаран «Тры капелюшы» — любімае месца Іосіпа Броз Ціта, куды ён прыводзіў замежных гасцей*

залежных. Прычым самыя масавыя СМІ — агенцтва навін «Танюг» і газета «Палітыка» — у адкрытую, праз бюджэт, што ёсць парушэннем закону, фінансуюцца ўрадам. Адпаведна, на 100 і 51 працэнт. Для «Танюг» гэта 2 мільёны еўра ў год, удакладніў галоўны рэдактар прыватнага незалежнага агенцтва навін «Beta» Іван Цвеіч.

Паводле інфармацыі Вукашына Абрадавіча, увесь рынак СМІ ў Сербіі складае прыкладна 170 мільёнаў еўра. Столькі ўкладаецца ў маркетынг — урадам, маркетынгавымі агенцтвамі (блізкімі да ўрада), алігархамі. Астатнія крыхі дастаюцца незалежным СМІ. Дзяржава на рынку маркетынгу займае больш за 40 працэнтаў. Гэта не дазволена, але гэта ёсць. «*Нашы патрабаванні,* — падкрэсліў ён, — *па-першае, адкрытасць інфармацыі — хто, каму і колькі, па-другое — дзяржава павінна сысці з рынку маркетынгу СМІ*».

У выніку такой арганізацыі прасторы СМІ, па ацэнках прэзідэнта Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі, тут пануюць выданні, якія ў журналісцкім асяроддзі атрымалі назву «**палітычнай жоўтай прэсы**» — наўпрост залежнай ад партый, уладаў, алігархаў. Іх функцыя — прапаганда, а не якасная журналістыка.

## Новыя незалежныя

І ўсё ж сегмент сапраўды незалежных СМІ ў Сербіі непараўнальна большы і ўплывовейшы, чым у Беларусі. З несумненнымі лідарамі гэтага сегмента я і меў якраз сустрэчы ў Бялградзе. Коратка ахарактарызую.

«*Штотыднёвік "Novi magazin" — не масавая газета,* — падкрэсліла галоўны рэдактар **Надзея Гачэ**. — *Газета для тых, хто любіць думаць сваёй галавой, хто мае сваё меркаванне*». Выданне заснавана групай журналістаў у 2007 годзе. Канцэпцыя «Novi magazin» роднасная канцэпцыі «Новага часу». Але ж фармат выдання для нас пакуль недасяжны — у выглядзе часопісу, на цудоўнай паперы, каляровы друк. У Сербіі ёсць, якім бы ён ні быў, рынак СМІ. І знайшліся пяць бізнес-структур, што даюць газеце рэкламу. Прытым кошт паперы і друку таннейшы, чым у нас.

«**Пясчанік**» — праграма, сайт і выдавецтва. Іх прадукт масавы і папулярны. Іх праграму прымаюць 11 радыёстанцый у Сербіі, а таксама ў Косава і Чарнагорыі. Аўдыторыя слухачоў — 400–500 тысяч. Рэдактаркі — дзве, як яны прадставіліся, Святланы — Лукіч і Вукавіч-Месаровіч. Прычым праграма і сайт рыхтуюцца ў асноўным пазаштатнымі аўтарамі, на 60–70 адсоткаў бясплатна. Асаблівасць: акрамя матэрыялаў па Сербіі на сайце змяшчаюць багата перакладаў з замежных крыніц, падлічылі — з 74. Іх пастаўляюць суайчыннікі, што з'ехалі за мяжу. Гэта дастаткова папулярныя публікацыі.

«**Beta**» — класічнае агенцтва навін, як падкрэсліў яго галоўны рэдактар Іван Цвеіч. Агенцтва прыватнае. 180 журналістаў працуюць па ўсёй Сербіі, таксама ў шэрагу еўрапейскіх краін. Пакупнікі прадукцыі агенцтва — на 70 працэнтаў СМІ, на 30 — партыі, дзяржаўныя і недзяржаўныя ўстановы і арганізацыі, амбасады і фірмы. Прадукцыя «Beta» карыстаецца даверам — як якасная і дакладная. «*Уплываць на нас,* — заўважыў спадар Іван, — *улады нават не спрабуюць, бо мы ведаем іх метады, а яны ведаюць устойлівасць нашых журналістаў*». А вось само агенцтва ўплываць на сітуацыю спрабуе не толькі праз інфармацыю. У прыватнасці, журналісты даслалі ўладам патрабаванне — тэст на дэмакратычнасць: выдаліць з бюджэту фінансаванне агенцтва «Танюг».

Я выказаў сваім калегам шчырую радасць, што над імі не вісіць лязо рэпрэсій і яны могуць гаварыць і пісаць, што захочуць, абсалютна забыўшыся на пагрозу расправы. За 13 гадоў яны не прыгадалі ніводнага такога выпадку.

Я разумеў сум калег, калі яны скардзіліся на вузкасць каналаў выхаду і ўплыву на масавую аўдыторыю, на таемную сістэму стрымлівання і ціску. Яны ж зразумелі мой сум, што іх праблемы — гэта праблемы нашага заўтрашняга дня. Але іх урокі лепш ведаць загадзя.

*26.11.2013 г.*

Фота З. Лукашука




**Леанід Канфер**

нарадзіўся ў Мінску, скончыў журфак БДУ, працаваў спецыяльным карэспандэнтам тэлеканалаў расійскіх НТВ, ТВ-6 і ТВЦ у Мінску. Узнагароджаны прэміяй «ТЭФІ» ў намінацыях «Спецыяльны рэпартаж» і «Спецыяльны рэпарцёр» за фільмы «Як я ездзіў у Чачню» і «Там, дзе была вайна». Працаваў на «Дзявятым канале» ў Ізраілі, цяпер — незалежны журналіст. Аўтар фільма «Кроўны вораг» пра вайну ва Украіне.

# «Сёння расійскае тэлебачанне — трэш, які не мае да журналістыкі дачынення»

***Еўрарадыё: Вы скончылі журфак БДУ і па логіцы павінны былі пачынаць кар'еру на айчынным тэлебачанні, але я вас ведаю выключна па працы на расійскіх каналах...***

**Леанід Канфер:** Я ніколі не працаваў на беларускім тэлебачанні і не збіраўся гэтага рабіць. Таму выбар быў просты: альбо працаваць стрынгерам, альбо — у лепшым выпадку — уласным карэспандэнтам расійскіх кампаній, якія на той момант лічыліся значна больш дэмакратычнымі і прыбытковымі. Ну а яшчэ я проста адчуў, што ўпёрся ў нейкую столь тэмаў, якія штогод па коле праходзяць, і нічога не змяняецца: выхад апазіцыі па знакавых датах, нешта ў чарговы раз «адмачыў» Лукашэнка, нейкая сацыялка і нейкая вёска. А хацелася нечага большага. Таму прычыны ў мяне былі асабістыя, а не як у выпадку, да прыкладу, з Сашам Ступнікавым, якога Лукашэнка дэпартаваў з Беларусі (Аляксандр Ступнікаў, кіраўнік прадстаўніцтва канала НТВ у Беларусі, у 1997 годзе быў пазбаўлены акрэдытацыі і дэпартаваны з краіны за «сістэматычнае скажэнне інфармацыі пра падзеі ў Беларусі». — *Еўрарадыё*).

***Еўрарадыё: Мяркую, і сёння шмат хто з нашых тэлевізійшчыкаў марыць трапіць на расійскі канал. Але ці лёгка туды ўладкавацца?***

**Леанід Канфер:** Цяпер няма ніякага сэнсу туды ехаць. У пэўны момант я нават пачаў жартаваць, што ад аднаго Бацькі збег да іншага. Расійскае тэлебачанне дрэйфавала да фармату беларускага і практычна з ім зраўнавалася. І цяпер нават лепш працаваць на беларускім ТБ: тут хоць і ёсць прапаганда, але гэта прапаганда ўлады. А ў Расіі не толькі ўнутраная прапаганда, але і інфармацыйная вайна з Украінай. Там з гэтай прычыны пачаўся проста нейкі трэш, які працягваецца ўжо два гады. І да журналістыкі гэта не мае ніякага дачынення ўвогуле! Сёння Масква перастала вабіць тым, што гэта нейкі цэнтр журналістыкі, дзе па прыездзе трапляеш у прафесійны асяродак, які цябе ўздыме, дапаможа вырасці. Не, цяпер наадварот — там навучаць таму, што да журналістыкі не мае ніякага дачынення.

***Еўрарадыё: Прыехаць па прафесійны рост і грошы — гэта адно, а стаць ваенным карэспандэнтам — зусім іншае. Самі такі выбар зрабілі?***

**Леанід Канфер:** Я не адзін такі: ёсць нашы фатографы — Сяргей Грыц, Вася Фядосенка, з якімі я пастаянна сустракаўся ў нейкіх «гарачых кропках». Калі я пераехаў у Маскву, ішла другая чачэнская вайна. І ўсе карэспандэнты-хлопцы ездзілі туды па ратацыі. Мала таго, што адмовіцца ехаць было сорамна, хоць такія ў нас і былі, але выправіцца туды было яшчэ і цікава. Бо вайна агаляе ўсё. І тыя сітуацыі, той нерв, які здымаеш на вайне, не здымеш ні ў якім іншым месцы. Ну і гэта проста зацягвае. Хоць і былі выпадкі, калі журналістаў выкрадалі, забівалі…

І, ведаеш, я пастаянна адчуваў зайздрасць да журналістаў «першага прызыву» НТВ, якія працавалі падчас першай чачэнскай вайны. Яны заўжды стараліся паказваць два бакі: здымалі і з боку баевікоў, і з боку федэралаў. І гэта правільна па ўсіх прафесійных стандартах, калі ты сябе адчуваеш найперш не грамадзянінам краіны, а журналістам. Калі я цяпер рабіў свой фільм пра Данбас і двух братоў, якія ваююць адзін супраць аднаго, мне неаднаразова казалі: «Ты з Расіі, а паехаў здымаць ва Украіну — як так?», ці «Ты сам з Беларусі, а паехаў здымаць сепаратыстаў — як ты мог?». Я лічу сябе журналістам па жыцці, а потым ужо грамадзянства, адчуванне самога сябе, ментальнасць і гэтак далей. Так я заўжды сябе пазіцыяную падчас працы ў «гарачых кропках».

***Еўрарадыё: І ў выніку сталі дарадцам у Рамзана Кадырава…***

**Леанід Канфер:** Гэта было сяброўства, якога я не шукаў. Хоць былі калегі, якія такога сяброўства хацелі: ведалі, што Рамзан Кадыраў — чалавек шчодры, і калі хтосьці яму падабаецца, то ён можа шмат чаго для яго зрабіць. Гісторыя такая. У 2006 годзе Кадырава прызначылі прэм'ер-міністрам Чачні — па ўзросце ён яшчэ не мог быць прэзідэнтам. А «часовым» прэзідэнтам быў Алу Алханаў. Мар'яна Максімоўская для сваёй праграмы папрасіла мяне зрабіць сюжэт пра Алханава ў фармаце «без гальштука». І Алханаў быў у маім сюжэце чалавекам: ён у мяне чхаў, спатыкаўся, гуляў са мной у футбол. А ў выніку мы ехалі з ім у машыне, і ён заснуў. Аператар зняў мой стэндап, калі я кажу: «Ціха, прэзідэнт спіць», — і камера пераходзіць на Алу Алханава. Гэта выйшла ў эфір, і на наступны дзень мне патэлефанаваў Кадыраў. Размова пачалася з яго слоў: «Леанід, а хто вам даў права здзекавацца з нашага прэзідэнта?» Але гэта быў жарт: Кадыраў успрыняў фільм так, нібыта мы хацелі паказаць Алханава як чалавека, які не спраўляецца са сваімі абавязкамі. Так узнікла сяброўства, і за адну фразу: «Прэзідэнт спіць», — Кадыраў мне шмат што прабачаў. Бо ў тыя часы я быў «няспелым» журналістам і лічыў, што сур'ёзныя думкі лепш падмяняць іроніяй.

Але пазней узніклі сітуацыі больш сур'ёзныя за іронію ў маіх сюжэтах, і ўзаемадачыненні нашы скончыліся. Добра, што яны скончыліся без нейкіх сур'ёзных наступстваў для мяне. Гэта я расказаў перадгісторыю таго, як стаў дарадцам у Кадырава. Праўда, гэта была толькі назва — насамрэч я займаўся навучаннем яго журналістаў. Я спрабаваў калі і не зрабіць з тэлебачання Чачні «Тыдзень з Максімоўскай», але хаця б упісаць яго ў нейкія дужкі і правілы. Але ў выніку ў мяне нічога не атрымалася. Для іх там пастаянная прысутнасць прэзідэнта на экране важнейшая за ўсе фарматы.

На гэтым мая праца і скончылася. Але я на ўласным досведзе ўпэўніўся: нельга журналісту дазваляць сваім героям пераходзіць у стасунках нейкую мяжу. Бо тады імгненна страчваюцца твая незалежнасць і тваё права казаць пра гэтага чалавека пэўныя рэчы, якія рэальна існуюць. У мяне гэтая мяжа была пяройдзеная, і я для сябе вырашыў, што не каментую нічога з таго, што адбываецца ў Чачні.

***Еўрарадыё: І пытацца ў вас пра магчымую ролю Кадырава ў смерці Нямцова, што яму прыпісваюць, бессэнсоўна?***

**Леанід Канфер:** Так, я не буду гэта каментаваць, бо мяне нельга назваць чалавекам цалкам бессторонным.

***Еўрарадыё: Ці можна параўноўваць тое, што адбывалася ў Чачні, з тым, што сёння адбываецца ва Украіне?***

**Леанід Канфер:** Такое параўнанне цалкам дарэчы. Год таму я здымаў наёмніка, 21-гадовага хлопца. Патрапіў з ім у адным акопе пад Славянасербскам пад артылерыйскі абстрэл. Гэта быў яго



самы першы бой, і я здымаў у гэты час з ім інтэрв’ю. Потым мне сказалі, што ён у тым баі загінуў. Высветлілася — няпраўда. Ён выжыў і з’ехаў дамоў, у Расію. Я знайшоў яго ў Чарапаўцы. Пытаюся: «Андрэй, у 90-х гадах Расія ваявала ў Чачні — за што яна ваявала?» — «За тэрытарыяльную цэласнасць, каб краіна не развалілася». — «А цяпер Украіна ваюе за сваю тэрытарыяльную цэласнасць, бо і сама яна, і ўвесь свет, і нават Расія лічаць, што гэта яе тэрыторыя, чаму Расіі можна было ў Чачні, а Украіне на Данбасе нельга?» У яго не было адказу на гэтае пытанне. Але гэта праўда, гэта цалкам адпаведнае параўнанне. У Чачні загінулі дзясяткі тысяч мірных жыхароў, Грозны, калі я яго ўбачыў, нагадаў мне Сталінград. Таму, калі Расія кажа, што ўкраінцы не павінны адваёўваць свой Данбас, узнікае пытанне: «А вы што рабілі ў Чачні?»

***Еўрарадыё: Чаму ж расіяне едуць ваяваць на Данбас?***

**Леанід Канфер:** Розныя людзі. Гэты Андрэй «Чэрап» спрабаваў мне паўтарыць тое, што кажуць па тэлевізары. Але на складаныя пытанні, як у выпадку з Чачнёй, ён нічога не мог сказаць, бо адказаў на такія пытанні ў тэлевізары не давалі. І думаю, што такіх падманутых прапагандай людзей там шмат. Але былі людзі, якія за «*русский мир*»: «Тут рускіх б’юць!» Яны былі на перадавой «змагання з амерыканскім імперыялізмам». Але былі і тыя, хто разумеў, што вайна — гэта тое месца, дзе можна «*отжать*», шмат там нейкіх напаўкрымінальных і крымінальных элементаў. Ёсць і людзі прафесійныя, якія нібыта добраахвотнікі, але бачна, што ў іх прафесійны армейскі погляд на рэчы.

***Еўрарадыё: Вы зразумелі, што гэта за «русский мир», пра які так шмат гавораць?***

**Леанід Канфер:** «*Русский мир*», як я разумею, — гэта гатоўнасць ісці ваяваць за нейкія свае каштоўнасці. Праўда, ніхто не ведае, што гэта за каштоўнасці. «*Русский мир*» — гэта як ідэя «нашых б’юць!». І гэтая ідэя працуе на Данбасе. Усе СМІ працавалі на гэтую ідэю: украінскія фашысты-бандэраўцы не даюць рускім Данбаса гаварыць па-руску і сябраваць з Расіяй. Ідэя зразумелая, і таму шмат хто туды паехаў. Але тут узнікае пытанне: ёсць жа рускія ва Узбекістане, Туркменіі, дзе ўжо 25 гадоў пасля развалу СССР іх проста знішчаюць. І Расія іх не абараняе. Бо ёсць туркменскі газ. Ва Украіне ж разыгрываецца «руская карта», бо Расія не хоча, каб Украіна сыходзіла з-пад яе ўплыву ў Еўропу. Мы ж кажам, што павінны быць два цэнтры сілы, што мы роўныя амерыканцам! А тут нейкая Украіна ад нас сыходзіць, і мы нічога не можам зрабіць. Вось і ўвесь «*русский мир*»! З голай задніцай, але — рваць на сабе «цельнік» і крычаць: «Мы круцейшыя за ўсіх!»

***Еўрарадыё: Ваш фільм пра двух братоў быў паказаны і ў Расіі, і ва Украіне?***

**Леанід Канфер:** Так, прычым у адзін дзень. Праўда, былі дзве версіі фільма: для Украіны і для Расіі. Але галоўнае засталося ў абедзвюх версіях: збалансавана паказаны канфлікт з двух бакоў, і мы даем абодвум героям выказацца на тэму, чаму яны ваююць.

***Еўрарадыё: У нас расійскія каналы больш папулярныя за айчынныя, не можа так стацца, што расійская прапаганда і на нашым грамадстве негатыўна адаб’ецца?***

**Леанід Канфер:** Мне падаецца, што гэтае засілле расійскіх каналаў прыдатнае для беларускай улады. Чаму? Па расійскім тэлебачанні вельмі добра і падрабязна паказваюць вайну ў суседняй краіне. Беларусы глядзяць і параўноўваюць з тым, як яны жывуць: у іх няма вайны. Гэта спачатку са словаў Лукашэнкі: «Скажыце дзякуй, што ў нас тут мір», — смяяліся, а цяпер, калі побач рэальная вайна, а дома — мір, людзі кажуць: «А праўда»…

Гэта вельмі важны момант для ўмацавання ўлады. Бо калі б гэта было нявыгадна ўладзе, то гэта б не паказвалі. Але ж паказваюць і кажуць: «Вы бачыце, што адбываецца ва Украіне? А ў Расіі? Там увогуле труба! А ў нас тут востраў стабільнасці!» Прадуманая пазіцыя: чым больш людзі глядзяць расійскае тэлебачанне, тым больш трымаюцца за гэтую ўладу — «каб толькі не было вайны!».

З іншага боку, раней я ў Беларусі бываў эпізадычна і не паглыбляўся ў тое, што тут адбываецца. Але ў апошні прыезд мы пагулялі па Мінску, і мне кінуліся ў вочы некалькі фактаў. У адной з кавярняў валанцёры выкладаюць беларускую

мову, і туды прыходзіць вельмі шмат народу: не толькі хіпстары ды студэнты, але і людзі ва ўзросце, якім да пенсіі некалькі гадоў. І гэтаму ніхто не перашкаджае. А раней было так: усе, хто гаворыць па-беларуску, — апазіцыянеры і патэнцыйная пагроза ўладзе. Думаю, сёння ўлада адчувае большую пагрозу з боку Расіі, чым з боку апазіцыі. Вядома, што гэта кан'юнктура, і сёння за нацыянальна арыентаваную пазіцыю ўлада можа нават пахваліць. Нават Лукашэнка стане нацыяналістам, калі ўбачыць пагрозу сваёй уладзе звонку.

***Еўрарадыё: Ваш допіс у Фэйсбуку, дзе вы параўналі Мінск з іншымі еўрапейскімі гарадамі, меў шмат праглядаў…***

**Леанід Канфер:** Я сам гэтаму здзівіўся. Але хачу ўдакладніць: я, вядома, не меў на ўвазе, што Беларусь стала Еўропай. Проста я ўбачыў такіх людзей, якіх тут не бачыў раней і якія з'явіліся тут не дзякуючы, а насуперак. Людзі гэтыя па сваёй ментальнасці і сутнасці — еўрапейцы. Асабліва гэта заўважна, калі доўга пражывеш у Расіі і прыедзеш сюды. Там у цябе пастаянна перад вачыма майкі з Пуціным, а тут ты бачыш людзей, якія цікавяцца зусім іншымі рэчамі ў жыцці. Яны не хочуць ні з кім ваяваць, ні за якія ідэі — у іх еўрапейскія каштоўнасці пераважаюць. Гэта той трэнд, які і без Майдана дазволіць Беларусі дрэйфаваць у бок Еўропы. Калі такіх людзей паступова будзе станавіцца ўсё больш. І гэта не будзе залежыць ад жадання ці нежадання ўлады. Калі людзей з еўрапейскай ментальнасцю стане так шмат, то ніякая Ярмошына не зможа намаляваць ніякія вынікі — людзі проста не дазволяць працягвацца таму, што цяпер маем. Я пісаў пра гэта. Мне падавалася, што тут усё задушана нейкімі «бээрсээмамі», саўком, але не — з'явілася гэтая вось праслойка.

***Еўрарадыё: За сёлетняй прэзідэнцкай кампаніяй сачылі?***

**Леанід Канфер:** Ніякіх сюрпрызаў я не чакаў ад гэтых выбараў і дакладна ведаў, што ніхто на вуліцы не выйдзе — мінулы раз «надавалі па шапцы», але ўсё адно гэта ні да чаго не прывяло. Але ёсць нейкая псіхалагічная стомленасць у людзей, яны проста хочуць нечага іншага. Не тое каб яны стаміліся канкрэтна ад Лукашэнкі, ці яны бачаць нейкую альтэрнатыву, альбо заражаныя нейкай еўрапейскай ідэяй — нічога таго, што ёсць ва Украіне, тут няма. Проста: «Ну дайце хоць нечага іншага паспрабаваць, жыццё ж праходзіць, надакучыла адно і тое ж ледзь не чвэрць стагоддзя!» І гэта настрої не толькі інтэлігенцыі, але і звычайных людзей. Плюс — пагаршэнне эканамічнай сітуацыі. Вядома, што гэта адбываецца з прычыны ўскладнення сітуацыі ў Расіі. А ў такім выпадку пра які суверэнітэт можна казаць, калі эканоміка тваёй краіны цалкам залежная ад краіны іншай?

Але цяпер пра іншае: у казіно і ў палітыцы заўжды трэба своечасова спыняцца і сыходзіць. Пуцін гэтую мяжу перайшоў — яму трэба было больш у прэзідэнты не ісці, і ён бы застаўся ў памяці як чалавек, пры якім было добра. І ніхто б не задумваўся, што гэта не Пуцін зрабіў добра, проста сусветныя цэны на нафту былі добрыя. У Лукашэнкі тое ж самае — гэта будзе яго самы складаны тэрмін. Бо зараз будзе вельмі цяжкое становішча ў Расіі, а адпаведна — і ў Беларусі. Як з гэтага выходзіць? Ніхто ж не хоча ніякіх структурных рэформаў. Лавіраваў Лукашэнка 20 гадоў паміж Захадам і Расіяй — і ён думае, што атрымаецца гэта і цяпер. Як не атрымаецца ў Пуціна пераседзець і дачакацца добрых коштаў на нафту. Не будзе гэтага. І я нават рады, што зноў пераабраўся Лукашэнка. Бо калі б выбралі іншага, тую ж Караткевіч, то справіцца з тым валам праблем, якія цяпер навальваюцца на Беларусь і Расію, нерэальна. Ну вось хай і расхлёбвае вынікі свайго 20-гадовага кіравання сам. Можна было знайсці «стрэлачніка», але абодва яны вырашылі гэтага не рабіць. Можна было спакойна сысці — вырашылі не сыходзіць. Добра. Уласна кажучы, заўжды мусіць прыйсці момант, калі за ўсё трэба плаціць і адказваць.

***Еўрарадыё: Пры якіх умовах вы вярнуліся б працаваць на радзіму?***

**Леанід Канфер:** Я — журналіст. І нават цяпер, калі ў Расіі татальная прапаганда і ніхто гэтага не хавае, я спрабую даказаць, што магу застацца журналістам. Нават на дзяржаўным канале «Расія 24» я раблю тое, што адрозніваецца ад таго, чым займаюцца ўсе астатнія. Я не крытыкую калег — кожны робіць свой выбар, і кожны ведае, за што яму сорамна, а за што — не. Мне не павінна быць сорамна за тое, што я раблю ў эфіры. І калі ў Беларусі мне будзе дазволена заставацца верным прынцыпам журналістыкі, не абслугоўваць нечыя інтарэсы, то ўсё можна абмяркоўваць. Пры гэтым я ўсё адно хацеў бы захаваць за сабой статус незалежнага чалавека, які ў любы момант можа сказаць: «Выбачайце, хлопцы, гэта мы граем, а гэта — не». Я вельмі асцерагаюся, што мне пачнуць нешта дыктаваць. А я гэтага моцна не люблю.

*Гутарыў Зміцер Лукашук*

# Приглашение для Ежи Хоффмана



*Ирина ШЕПЕЛЕВИЧ,*
*«Брестский курьер»*

*...История, которую я так люблю, то, что я снимаю и делаю, окружает нас. И хотя эта история и наших стран, и наших народов неоднократно была нелегкой и сложной, но все же я оптимист и верю в то, что когда-то рекой Буг можно будет с начала до конца проплыть без паспорта и визы, чего вам всем истинно и горячо желаю...*

*Ежи Хоффман*

Мне во что бы то ни стало надо было с ним встретиться!

К тому же в редакции «Брестского курьера», где я работаю, возникла идея — провести в Бресте ретроспективу фильмов именитого поляка с приглашением пообщаться со зрителями. А почему бы и нет?

## На фестивале в Замосци

Замосць, небольшой польский город-крепость, славится не только своим легендарным прошлым. На протяжении долгих лет достаточно успешная польская киноиндустрия проводит здесь фестиваль — так называемый киноотчет по итогам года и достижениям в документальном и художественном кино.

В этот раз кинофестиваль «Встречи с историей» прошел с особым размахом. Даже если не брать во внимание, что одну и ту же площадку старой рыночной площади в центре города на протяжении трех дней делили армия киношников, реконструкторов и действующего Войска Польского, то сами только кинособытия тянут на добрый раздел описания происходящего.

500 документальных фильмов со всех уголков Европы были представлены на вердикт интернет-публики и комиссии государственных телестанций Польши. 27 фильмов, среди них белорусская кинолента о судьбах евреев (Минск, «Студия Владимира Бокуна»), заняли почетное место в череде претендентов на главную награду фестиваля. Здесь же, без разделения на категории документальных, профессиональных и любительских работ, проходили презентации художественной голливудской продукции. И какую гордость мы с коллегами испытали за то, что в вышедшем уже в пятой оцифрованной версии кинофильме «Потоп», преобразованном современными голливудскими технологиями, в титрах значилось изначальное: «Produkcja — PRF Zespoł Filmowy przy pomocy Wytwórni Filmowej "Biełaruśfilm" w Mińsku, BSRR (kierownik produkc. Siemion Tulman)»!

## С любовью к Бресту и Беларуси

*«Я не скрываю того, что самые тяжелые и невероятно трудные киносъемки фильма "Потоп" я делал с помощью белорусских коллег и вашей киностудии»,* — сказал нам после получения очередной награды знаменитый польский режиссер **Ежи Хоффман**. Кстати, все нынешние призы достались именно этому когда-то номинированному на «Оскар» фильму и 83-летнему мэтру кино. Все-таки любят его поляки.

А он в свою очередь любит публику, которая почитает его фильмы, и еще нашу с вами страну Беларусь, город Брест, где сошлось так много его молодых воспоминаний. В одном из интервью для «Брестского курьера» Хоффман подчеркнул: «*Этот город в моей жизни сыграл определенную роль. Это был первый город, в котором мы, кандидаты в студенты, остановились, когда ехали во ВГИК в 1950-м. Мы были в Брестском театре, ходили по брестским улицам, набирались впечатлений. С тех пор при дальнейших поездках — это был и есть пограничный город — мы всегда останавливались в Бресте на несколько часов. Есть что вспомнить.*

*С Беларусью у меня связаны особые воспоминания со съемок фильма "Потоп". Именно на "Беларусьфильме" были построены основные декорации, и мы там снимали очень важные и трудные сцены. Где-то перекликается еще Беларусь в фильме "Знахарь", ибо там православная семья мельника — это белорусская семья*».

## Что привезти вам, маэстро?

Наверное, атмосфера недоступности режиссера на фестивале и сама его легендарная личность спровоцировали мою настойчивость: мне во что бы то ни стало захотелось встретиться с Хоффманом. К тому же в редакции «Брестского курьера» появилась идея — провести в нашем городе показы фильмов знаменитого поляка и организовать его встречи со зрителями.

Не буду рассказывать, с какими трудностями мы раздобыли номер телефона Ежи Хоффмана, но наконец-то услышали:

— До конца октября я живу в усадьбе у озера. Ехать ко мне в направлении Мазурских озер в сторону города Элка, потом полями, и когда будет конец дороги, упретесь в озеро. Над этим озером мой дом.

— Позвольте, а адрес у маэстро есть, или я буду ехать на деревню к дедушке?

— Дорогая, если очень захочешь — найдешь. Для целеустремленных это просто, а иным здесь и делать нечего.





## НАША СПРАВКА

**Ежи Хоффман (род. 15 марта 1932, Краков) — польский кинорежиссер и сценарист. Родился в семье польских евреев, которая после 1939 года была депортирована в Сибирь. Его отец, врач по профессии, пошел добровольцем в сформированную в СССР первую дивизию имени Костюшко Войска Польского. После войны Ежи Хоффман вернулся в Польшу. В 1955 году окончил Всесоюзный государственный институт кинематографии СССР в Москве. В том же году дебютировал как режиссер. Наиболее известен благодаря экранизациям романов Генрика Сенкевича «Пан Володыевский», «Потоп», «Огнем и мечом».**

— Что привезти вам, маэстро? С пустыми руками в гости не поедем.

После некоторой паузы, тоном, совсем избавленным от былой важности, мой собеседник произносит:

— Послушай, а можешь мне привезти сала? Простого деревенского сала? Это будет лучший подарок.

— Да, нет проблем, — обрадовалась я столь незатейливой просьбе. Правда, через минуту вспомнила, что сало является продуктом, который нельзя перевозить через границу.

## Через границу — с салом от батюшки

Где раздобыть хорошего деревенского сала, ломали мы голову несколько последующих дней. Вызвался помочь один знакомый православный священник: сказал, что сало приготовит сам, надо только выбрать хороший бочок. Так и поступили: сначала выбрали на рынке мясной бочок, затем батюшка его засолил, а через несколько дней, когда привез сей деликатес, даже от машины пахло душистым «наркотиком», который запрещен к провозу через границу уже несколько лет.

— Что везем? — спросил таможенник на польской стороне.

— Да так, ничего. Канистра бензина, бутылка водки и два кило сала в подарок для Ежи Хоффмана.

— Для Ежи Хоффмана? Ну-ну, — посмеялся над нами таможенник. — Что еще придумаете?

— Вот едем в гости к знаменитости, собираемся пригласить его в Брест.

— Куда он к вам поедет? У него своих дел невпроворот, сидит где-нибудь в Голливуде. Это то же самое, если бы вы Михалкова пригласили. Михалков, может, тоже к вам приедет на сало?

Прошли рядом двое в черном с собакой.

— Пани ниц не мае? — интересуются.

— Нет, только два кило сала для Хоффмана, а больше ничего, — честно повторила я.



*Дом на воде*

— Сколько литров бензина? — спросил таможенник, приняв, видимо, за шутку признание о сале в багаже.

— Полный бак, и канистру наполнили до полной.

— Хорошо, проезжайте…

— И стоило полночи переживать, не спать из-за этого сала, — прокомментировала моя дочка. — Видишь, оно их совсем не интересовало.

## Резиденция на воде

Приближаясь к Элку, мы немного переживали, как нас встретят, каковы будут результаты этой встречи, захотят ли с нами общаться и откровенничать. «Как живут знаменитости?» — беспокоило меня, пока мы… не потеряли маршрут. Зелено-желтые поля, типичные мазурские вербы, расположенные вдоль извилистых узких автодорог, пейзажи, напоминающие мультик про телепузиков, и озера, озера, озера.

— Где его искать? — беспокоилась моя дочь. — Здесь уже конец света! Даже спросить не у кого.

Звоню пану Ежи:

— Маэстро, мы заблудились, я уперлась в озеро, дальше дорог нету. Подскажите, где Вас искать.

— Поверните чуть левее, я вас вижу, подъедете сразу к моему дому.

Большое озеро с островом посередине гнало на берег волны.

Открылись большие ворота, и мы въехали в резиденцию, стоящую прямо на воде. Длинный причал, фасад дома на сваях, нависающий прямо над озером...

— Проходите, вас ждет обед, я сам его готовил, — сказал несколько взволнованно хозяин этой обители.

Пока мы уплетали польское национальное блюдо фляки и свежепеченое мясо, режиссер задавал свои вопросы. Пришлось объяснять, как и зачем мы здесь оказались и чего от него хотим.

— Я очень тяжело схожусь с незнакомыми, — вздохнул пан Ежи. — В этом доме бывало много гостей, большинство из них с коммерческой целью. Я стараюсь доверять людям, но много лет прожил, и всякое в жизни бывало, мой дом даже однажды ограбили. Я должен четко понимать, что вы от меня хотите и кем являетесь.

Мы с дочерью коротко изложили идею пригласить мэтра польского кино к нам в Брест. Рассказали, что хотим организовать показ его знаменитых фильмов, желательно в новой, уже голливудской обработке. Он долго слушал и, по-моему, не весьма доверял нашей невесть откуда взявшейся идее.

## Поедем к бабушке?..

— Я привезла вам сало, как вы просили. А еще хочу вам подарить фотографии: это наше Полесье, та атмосфера, в которой вы неоднократно делали сцены к своим знаменитым фильмам.

— Это твои фотографии? — заинтересовался лицами бабушек и соломенными крышами мэтр.

— Да, мои.

— Если я поеду к вам в Беларусь, сможешь меня завести к такой бабушке? — произнес режиссер после долгой паузы.

— Да, конечно, — обрадовалась я, — это вообще Брестский район, совсем близко. Вы уже запланировали сделать новый фильм? Поедем, посмотрим, проведаем, сделаем, — выпалила я. — Только бы вы имели желание.

— Как говорят в Одессе, не суетись, не суетись, — охладил меня мэтр. — Спокойно. Мне кажется, я уже не буду ничего снимать. Свои лучшие фильмы я уже произвел. Финалом деятельности стал фильм «Варшавская битва». Помни, деточка (он ни разу не назвал меня по имени), я начинал с далекого черно-белого прошлого... И дошел до самого передового 3D. Куда еще лететь? Я должен отдавать себе отчет, что есть молодые, куда более меня превосходящие, им и дорога.

— А талант, талант, который все время просит есть? Творческие порывы, амбиции, их что, совсем уже не осталось? Вайда старше вас на семь лет, а еще берется за киноработы.

— Я скажу так: мне уже 83. Моя жизнь делится на «до» и «после». «До» — это когда я был силен и гнул подковы, а также ребра своим друзьям при объятиях. «После» — это когда я сам себе поломал два ребра, задыхаясь от курительного кашля, на съемках «Варшавской битвы». Я курил уже просто без перерыва, пил кофе и травил себя никотином еще и еще. Казалось, все мало, и сигареты не покидали моих пальцев. Доктор спас меня тогда, ребра проломили легкое. После кровоизлияния его пришлось удалить. Теперь я не могу бегать и прыгать и радуюсь, что все еще живой.

— О вас говорят, что вы и алкоголем баловались не на шутку.

— Всякое было, у меня была трудная жизнь, не дай Бог кому, — подкупал режиссер своей прямотой.

## В один день все оборвалось…

— Почему вы говорите со мной на чистом русском, почти без акцента? — задаю я вопрос.

— Потому что у меня была хорошая школа, — начинает свой рассказ Хоффман. — Я в Москве во ВГИКе учился, кругом было много русскоговорящих людей. А еще ранее моими учителями были хорошие педагоги из Санкт-Петербурга, русский и литературу я знал на отлично.

Я стесняюсь завести разговор о его любимой женщине, которой не так давно не стало. Валя, дочь знаменитых киевлян, — все еще рана в его сердце.

— Итак, ваше детство, что вы могли бы о нем рассказать?

— Я родился в 1932-м в Кракове. Жили мы в Горлицах Краковского повята, откуда происходила семья моей мамы. Отец был из Креховичей Карпатского

